РОЗГАЛАС

## ЗАКОН АБ ВЫБАРАХ У МЯСЦОВЫЯ САВЕТЫ ПРАХОДЗІЦЬ ШЛІФОЎКУ

Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу актыўна ўключыліся ў дапрацоўку не прынятага на пятай сесіі ў другім чытанні праекта Закона «Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь».

Згодна з зацверджаным Старшынёй Палаты прадстаўнікоў Анатолем Малафеевым графікам, 18 і 20 лістапада пройдуць сумесныя пасяджэнні пастаянных камісій, дзе будзе разгледжана ступень гатоўнасці гэтага дакумента для вынясення яго на сесію. Дэпутатам трэба будзе знайсці прававое рашэнне па шэрагу выказаных у ходзе абмеркавання важных і цалкам абгрунтаваных заўваг.

**Л. КЛАСКОЎСКАЯ, БЕЛТА.**

## ХАБАР ЗА ПРАЦАЎЛАДКАВАННЕ?

Фіяскам закончылася «прадпрымальніцкая дзейнасць» аднаго начальніка Першага рудаўпраўлення ВА «Беларускалій», у якога апісана следчымі органамі маёмасць на дзесяткі мільёнаў рублёў.

Гэтую аперацыю па спыненню злачыннай дзейнасці правялі супрацоўнікі Упраўлення Камітэта па арганізаванай злачыннасці па Мінскай вобласці, якія зацікавіліся асобай арыштаванага год таму назад. Той арганізаваў «бізнес» па працаўладкаванню гарнякоў, з якіх браў плату ў замежнай валюце. Яму прад'яўлена абвінавачванне па 8 выпадках атрымання хабару на агульную суму больш за 2500 долараў ЗША.

**Алесь ДЗЕРАВЯНКА.**

## ДАЎГІ ТРЭБА АДДАВАЦЬ...

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка 16 лістапада 1998 года заслухаў даклад Старшыні Міжведамаснай камісіі па звароту незаконна атрыманых і няведнутых крэдытаў банкаў Рэспублікі Беларусь Л. В. Глухоўскага. Камісія была створана Распараджэннем прэзідэнта № 257рп ад 5 кастрычніка 1998 года.**

Як адзначаецца ў паведамленні прэс-службы кіраўніка дзяржавы, за перыяд свайго існавання Міжведамаснай камісіяй былі прааналізаваны крэдытныя партфелі банкаў, якія маюць у сваіх статутных фондах значную долю дзяржаўных сродкаў. У МУС ёю вывучаны ўсе прыпыненыя, спыненыя справы гэтай катэгорыі, работа па якіх вядзецца крайне недастаткова, прааналізаваны матэрыялы гаспадарчых судоў аб прымусовым спагнанні валютных сродкаў на карысць банкаў. Выяўлены факты, калі мясцовыя ўлады перарэгістроўваюць формы ўласнасці без стварэння ліквідацыйных камісій. Пры гэтым не звяртаецца ўвага на запазычанасць суб'ектаў гаспадарання перад банкамі.

Кіраўнік дзяржавы звярнуў увагу на крайне нездавальняючую сітуацыю, якая склалася з вяртаннем крэдытаў, падкрэсліваецца ў паведамленні прэс-службы. На сённяшні дзень з выдадзеных суб'ектам гаспадарання крэдытаў не вернута 400 мільёнаў долараў ЗША.

Прэзідэнт запатрабаваў у бліжэйшы час унесці канкрэтныя прапановы аб адказнасці банкіраў, якія выдалі крэдыты і не забяспечылі іх вяртанне, а таксама крэдытапазычальнікаў, якія не разлічыліся з банкамі. Сур'ёзныя прэтэнзіі будуць прад'яўлены судам, дзе на разглядзе знаходзяцца іскі банкаў на суму каля 15 мільёнаў долараў, па якіх рашэнні да гэтага часу не прыняты. Кіраўнік дзяржавы мае намер строга спагнаць з кіраўніцтва МУС, пракуратуры, іншых праваахоўных органаў за непрыняцце належных мераў па своечасоваму расследаванню крымінальных спраў па гэтых пытаннях.

**БЕЛТА.**

## СЯРГЕЙ ЛІНГ СУСТРЭЎСЯ З ПРЭЗІДЭНТАМ КАНЦЭРНА «БАБАЕЎСКІ»

**Пытанні супрацоўніцтва прадпрыемстваў харчовай прамысловасці Беларусі з ААТ «Кандытарскі канцэрн «Бабаеўскі» Расійскай Федэрацыі абмяркоўваліся 16 лістапада на сустрэчы прэм'ер-міністра Сяргея Лінга і яго намесніка Леаніда Козіка з прэзідэнтам канцэрна Сяргеем Насенкам.**

Расійскі госць і асобы, якія яго суправаджаюць, сустрэліся таксама з міністрам сельскай гаспадаркі і харчавання Іванам Шаколам і кіраўніком канцэрна «Белхарчпрам» Валерыем Каштанавым.

У ходзе перагавораў была дасягнута прынцыповая дамоўленасць па шырокаму спектру праблем узаемнага супрацоўніцтва паміж харчавікамі Расіі і Беларусі. У прыватнасці, станоўча вырашана пытанне аб пастаўках у нашу краіну какававых зярнят для вытворчасці шакаладных цукерак. З перспектыўных планаў прапрацоўваліся падыходы да стварэння сумеснай расійска-беларускай харчовай карпарацыі.

У той жа дзень Сяргей Насенка і члены дэлегацыі прынялі ўдзел у адкрыцці ў Мінску свайго фірменнага магазіна пры ўжо існуючым у сталіцы гандлёвым доме «Бабаеўскі».

**Алег ШВЕДАЎ, БЕЛТА.**

# РЭСПУБЛІКАНСКІ ШТАБ ЗАЦВЕРДЗІЎ ПЛАН СВАЁЙ РАБОТЫ І ДАЎ ДАРУЧЭННІ ОРГАНАМ ДЗЯРЖАЎНАЙ УЛАДЫ

Кіруючыся даручэннямі кіраўніка дзяржавы, Рэспубліканскі штаб пры прэзідэнце краіны зацвердзіў план работы на перыяд да 20 лістапада гэтага года, а таксама вызначыў першачарговыя меры, якія павінны прыняць органы дзяржаўнай улады для выпраўлення сітуацыі ў эканоміцы і на спажывецкім рынку.

Згодна з гэтым дакументам, прэм'ер-міністр Сяргей Лінг і старшыня Нацыянальнага банка Пётр Пракаповіч ужо к 13 лістапада павінны былі прадставіць у Рэспубліканскі штаб узгодненае рашэнне па рэгуляванню цэн і палітыцы абменнага курса беларускага рубля ў лістападзе-снежні гэтага года і ў 1999 годзе. А намеснік прэм'ер-міністра Леанід Козік — к гэтаму ж тэрміну падрыхтаваць зацверджаны асартыментны мінімум і парадак работы гандлёвых прадпрыемстваў і арганізацый, а таксама прыняць іншыя неадкладныя рашэнні па ўдасканаленню парадку гандлю.

**Нацыянальны банк**

Рэспубліканскі штаб пры прэзідэнце краіны даў наступныя даручэнні Нацыянальнаму банку:

прыняць вычарпальныя меры па забеспячэнню своечасовых разлікаў паміж суб'ектамі гаспадарання нашай краіны і Расійскай Федэрацыі і да 18 лістапада гэтага года дадаткова давесці да зацікаўленых асоб узгоднены з расійскім бокам парадак і ўмовы ажыццяўлення такіх разлікаў;

сумесна з праваахоўнымі органамі прыняць меры, якія выключалі б магчымасць удзелу работнікаў банкаў у незаконнай фінансавай дзейнасці.

**Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь**

Кіраўніцтву справамі прэзідэнта краіны сумесна з Міністэрствам фінансаў і Дзяржаўным падатковым камітэтам неабходна разгледзець пытанне аб забеспячэнні грашовымі сродкамі камісій па арганізацыі ўліку, захоўвання, ацэнкі і рэалізацыі затрыманай, арыштаванай, канфіскаванай або накіраванай у даход дзяржавы іншым спосабам маёмасці.

**Генеральная пракуратура**

Генеральнаму пракурору Алегу Бажэлку сумесна са старшынёй Вярхоўнага суда Валянцінам Сукалам і кіраўніком спраў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Іванам Ціцянковым да 20 лістапада даручана прадставіць кіраўніку дзяржавы абагульнены аналіз работы дзяржаўных органаў па накіраванню ў даход краіны канфіскаванай маёмасці.

**Урад і іншыя органы дзяржаўнай улады**

Віцэ-прэм'ерам Леаніду Козіку і Аляксандру Папкову неабходна разгледзець матэрыялы, прадстаўленыя намеснікам старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю Канстанцінам Сумарам, і прыняць адпаведныя рашэнні.

Намесніку кіраўніка ўрада Аляксандру Папкову трэба забяспечыць дзейсны кантроль за выкананнем заданняў па пастаўцы Мінску прадукцыі жывёлагадоўлі і птушкагадоўлі.

Міністэрствам, іншым рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання, аб'яднанням, падпарадкаваным ураду, мясцовым выканкамам даручана стварыць рабочыя групы, уключыўшы ў іх састаў работнікаў названых органаў, камітэтаў дзяржаўнага кантролю і праваахоўных органаў, для праверкі і разгляду да 20 лістапада гэтага года стану спраў на месцах і ліквідацыі існуючых недахопаў у насычэнні спажывецкага рынку прамысловымі і харчовымі таварамі. Каардынацыю дзейнасці гэтых рабочых груп па адпаведных напрамках павінны ажыццяўляць намеснікі прэм'ер-міністра Леанід Козік, Валерый Кокараў і Аляксандр Папкоў.

Да 18 лістапада гэтага года міністэрствам, іншым рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання, аблвыканкамам і Мінскаму гарвыканкаму неабходна разгледзець на пашыраных пасяджэннях калегій і выканаўчых камітэтаў пытанні аб прыняцці вычарпальных мераў па выкананню патрабаванняў кіраўніка дзяржавы па насычэнню спажывецкага рынку і ліквідацыі негатыўных з'яў у эканоміцы, а таксама аб павышэнні дысцыпліны і адказнасці кіруючых кадраў усіх узроўняў кіравання і гаспадарання. Кантроль за выкананнем гэтых патрабаванняў ускладаецца на віцэ-прэм'ераў і галоўных інспектараў Адміністрацыі Прэзідэнта, якія павінны забяспечыць штотыднёвае прадастаўленне кіраўніку Рэспубліканскага штаба інфармацыі аб стане спажывецкага рынку на адпаведных тэрыторыях і аб мерах, якія прымаюць мясцовыя органы кіравання па яго стабілізацыі (для наступнага даклада прэзідэнту краіны).

Міністэрствам фінансаў, эканомікі, працы, статыстыкі і аналізу разам з Нацыянальным банкам і іншымі зацікаўленымі міністэрствамі і ведамствамі дадзена ўказанне прааналізаваць дзеючы парадак уключэння ў сабекошт прадукцыі кошту сыравіны, матэрыялаў і камплектуючых вырабаў. У мэтах яго ўдасканалення ўнесці да 1 снежня гэтага года змяненні па ўдакладненню структуры затрат, што ўключаюцца ў сабекошт.

Міністэрствы працы, фінансаў, эканомікі павінны ўнесці да 17 лістапада гэтага года ў Савет Міністраў прапановы па пакрыццю насельніцтву і перш за ўсё грамадзянам, якія маюць нізкі ўзровень даходаў, страт ад інфляцыі. Ураду ж да 20 лістапада неабходна разгледзець гэтыя прапановы і прадставіць іх у Рэспубліканскі штаб для даклада кіраўніку дзяржавы.

Міністэрству сельскай гаспадаркі і харчавання сумесна з Міністэрствам эканомікі і аблвыканкамамі даручана зрабіць аналіз структуры і аб'ёмаў затрат на вытворчасць і перапрацоўку сельскагаспадарчай прадукцыі. На падставе атрыманых даных яны павінны выпрацоўваць прапановы па патаненню названай прадукцыі і прымаць канкрэтныя меры па іх рэалізацыі.

Міністэрству сельскай гаспадаркі і харчавання разам з аблвыканкамамі трэба арганізаваць закупку грэчкі і насення рапсу, якія ёсць у калгасах і саўгасах і іншых сельскагаспадарчых прадпрыемствах, для атрымання круп і алею выключна для патрэбнасцяў унутранага рынку. Гэтаму ж міністэрству і Міністэрству эканомікі неабходна вырашыць ва ўстаноўленым парадку пытанне павышэння закупачных цэн на названыя культуры.

Дзяржаўнаму камітэту па энергазберажэнню і энергетычнаму нагляду, Міністэрству жыллёва-камунальнай гаспадаркі, аблвыканкамам і Мінскаму гарвыканкаму да 25 лістапада гэтага года даручана правесці праверку работы прамысловых прадпрыемстваў, аб'ектаў жыллёва-камунальнай гаспадаркі, сацыяльнага і культурна-бытавога прызначэння ва ўмовах ацяпляльнага перыяду і прыняць вычарпальныя меры па ліквідацыі існуючых недахопаў. Гэтым жа органам дзяржаўнай улады неабходна актывізаваць растлумачальную работу з насельніцтвам па ўсямернай эканоміі паліўна-энергетычных рэсурсаў і давесці да спажыўцоў заданні па дадатковай эканоміі гэтых рэсурсаў. Рэспубліканскі штаб павінен быць праінфармаваны аб праведзенай рабоце да 28 лістапада гэтага года.

Белкаапсаюз, мясаперапрацоўчыя прадпрыемствы сістэмы Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, а таксама Мінскі гарвыканкам павінны прыняць дзейсныя меры па закупцы ў насельніцтва жывёлы і птушкі і прамысловай іх перапрацоўцы. Пры неабходнасці разлік са здатчыкамі жывёлы і птушкі праводзіць па дагаворных цэнах.

Аблвыканкамы і Мінскі гарвыканкам да 19 лістапада гэтага года павінны аформіць з Нацыянальным банкам крэдытныя лініі для закупкі тавараў крытычнага імпарту для кожнай вобласці ў памеры аднаго мільёна долараў ЗША, а для Мінска — чатыры мільёны долараў ЗША.

Неабходныя рэкамендацыі па пераліку тавараў крытычнага імпарту і імпарцёраў павінен прадставіць намеснік прэм'ер-міністра Леанід Козік. Яму ж даручана аказаць дапамогу ў афармленні крэдытаў і закупках.

Кіраўнікам дзяржаўных органаў даручана забяспечыць дзяжурства службовых асоб і спецыялістаў вядучых структурных падраздзяленняў у выхадныя дні з 9 да 20 гадзін для аператыўнага вырашэння неадкладных пытанняў. А ў Мінгандлі, Мінсельгасхарчы, Белкаапсаюзе, Мінпраме, Мінфіне і Мінэканомікі неабходна арганізаваць пастаяннае дзяжурства ў нерабочы час.

Рэспубліканскі штаб пры прэзідэнце краіны звярнуў увагу Савета Міністраў на тое, што да гэтага часу не прыняты належныя меры па выкананню пагаднення паміж урадамі Беларусі і Расіі аб пагашэнні запазычанасці.

Дзяржаўным органам Рэспубліканскі штаб рэкамендаваў улічваць у сваёй рабоце справядлівыя патрабаванні працоўных калектываў прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый і прымаць неабходныя меры для ліквідацыі прычын канфліктных сітуацый.

Міністэрству працы ўказана на тое, што ім сарвана выкананне даручэнняў кіраўніка дзяржавы аб рэфарміраванні сістэмы аплаты працы.

На пасяджэннях Рэспубліканскага штаба да 20 лістапада гэтага года запланавана разгледзець шэраг пытанняў. 16 лістапада ў парадку дня пасяджэння — удакладненне парадку куплі-продажу свабодна канверсоўнай валюты і расійскіх рублёў, рэгуляванне цэн і палітыкі абменнага курса беларускага рубля.

18 лістапада члены штаба плануюць прааналізаваць работу абласных і Мінскага гарадскога выканаўчых камітэтаў, Міністэрства гандлю і Белкаапсаюза па гандлёваму і бытавому абслугоўванню насельніцтва. У гэты ж дзень будзе разгледжана пытанне аб рабоце праваахоўных органаў і судоў па выкананню рашэнняў прэзідэнта краіны аб абароне спажывецкага рынку і валютным рэгуляванні.

Работа ўрада, рэспубліканскіх і мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў па забеспячэнню спажывецкага рынку харчовымі таварамі будзе абмеркавана на Рэспубліканскім штабе 20 лістапада. У гэты ж дзень члены штаба абмяркуюць, як ідуць справы з забеспячэннем аптэк і лячэбных устаноў неабходнымі лекавымі сродкамі і медыцынскім абсталяваннем, а таксама работу Міністэрства фінансаў па адшуканню дадатковых крыніц фінансавання дзяржаўных расходаў і па эканоміі дзяржаўных сродкаў.

**БЕЛТА.**

# БЕЛСАЮЗДРУКУ — 80 ГАДОЎ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

*— Усё ж такі асноўны ваш накірунак у рабоце — гэта распаўсюджванне друкаваных перыядычных выданняў.*

— Канешне. Чым мы пасляхова і займаемся. За 9 месяцаў гэтага года абарот газетна-журнальнай прадукцыі праз рознічную сетку «Белсаюздруку» склаў звыш 460 мільярдаў рублёў. Негатыўны адбітак на нашу прафесійную дзейнасць накладвае тое, што з рынку «Белсаюздруку» зніклі шматлікія расійскія перыядычныя выданні, якія раней складалі 25—30 працэнтаў ад гадавога абароту. Простыя арыфметычныя падлікі паказваюць, што, каб нам займець прыбытак, які атрымліваецца пры продажы аднаго тэлевізара пры цяперашнім яго сярэднім кошце у 50 млн. рублёў, трэба прадаць 5 тысяч газет. Думаю, не трэба вам тлумачыць, якая гэта карпатлівая работа. Але дзякуючы нашым людзям—прафесіяналам сваёй справы «Белсаюздрук» жыве і думае пра будучае.

*— Канкурэнцыя ў справе распаўсюджвання існуе?*

— Так. Калі не лічыць вулічных гандляроў «з рук», асноўным нашым канкурэнтам можна лічыць рэспубліканскае аб'яднанне «Белпошта», якое таксама мае нямала газетна-журнальных кіёскаў. Але ж мы знаходзім узаемаразуменне і як бы дапаўняем адзін аднаго. І «Белсаюздрук», і «Белпошта» робяць адну справу — аператыўна даносяць народу інфармацыю.

*— Юрый Валянцінавч, што вы хацелі б пажадаць усім работнікам «Белсаюздруку» напярэдадні знамянальнай падзеі — 80-годдзя?*

— Прабачце за неарыгінальнасць — жадаю усім здароўя, шчасця і поспехаў у іх нялёгкай працы.

***Таццяна ІВІНСКАЯ,***
***намеснік дырэктара Мінскага гарадскога аптова-рознічнага прадпрыемства «Белсаюздрук».***

*— Таццяна Іванаўна, у якім настроі сталічнае прадпрыемства «Белсаюздрук» сустракае юбілей.*

— У прыўзнятым. Як-ніяк, а 80 гадоў — гэта той тэрмін, калі можна падвесці пэўныя вынікі. А яны ў нас такія, што не даюць падставы сумаваць. Скажу так: «Наша служба такая, якую ў горадзе немагчыма не ўбачыць».

*— У чым гэта ў першую чаргу выяўляецца?*

— Акрамя шырокага асартыменту газетна-журнальнай прадукцыі, паглядзіце, як змяніўся знешні выгляд кіёскаў. Апошнія гады тры амаль усе свае зароблены сродкі ўкладвалі ў абнаўленне. Ведаю па водгуках чытачоў, што робім добрую справу. Аднак не скажу, што мы ўжо знайшлі свой фірменны стыль.

*— Мінскае гарадское аптова-рознічнае прадпрыемства ў сістэме рэспубліканскага «Белсаюздруку» адно з нямногіх, якое займаецца падпіскай.*

— Так. Сёння мы шукаем новыя формы і метады абслугоўвання насельніцтва. Напрыклад, у гэтым годзе разам з прыняццем падпіскі па беларускіх і расійскіх каталогах мы выдалі свой каталог, па якому падпісваем выданні з дастаўкай праз кіёскі «Белсаюздруку». Думаю, што такая форма абслугоўвання павінна зацікавіць чытачоў. Актыўна працуем над пазаштатнымі формамі распаўсюджвання друку, г. зн. на прадпрыемствах, вакзалах, бальніцах. Зараз мы кам'пютэрызуем нашы службы: бухгалтэрыі, склады, базы, бо з'яўляюцца грошы. Таму адкрываюцца новыя магазіны, што таксама не можа не радаваць. Ёсць яшчэ новыя задумкі. Адна з іх — хочам супрацоўнічаць з Расіяй па продажы перыёдыкі. Цяпер, як вядома, гэты працэс абцяжараны ўзаемаразлікамі. Але ж спадзяёмся на лепшыя часы. Тым больш, што на нядаўняй выставе «Прэса-99», якая праходзіла ў Маскве, наш шэф — Ларыса Кузьмінічна Шаблоўская асабіста абмеркавала гэтае пытанне з расійскімі калегамі.

*— Таццяна Іванаўна, гледзячы на сенняшняе нялёгкае эканамічнае становішча ў рэспубліцы, вы, сказаўшы пра лепшыя часы, верыце ў светлае будучае.*

— Ведаеце, калі не мець веры, то не варта і працаваць. А мы яе маем, і яшчэ выдатнага кіраўніка Ларысу Кузьмінічну Шаблоўскую (толькі не прыміце гэта за нейкую ліслівасць), якая з'яўляецца адным са старэйшых работнікаў «Белсаюздруку» і выдатным спецыялістам сваёй справы.

У нас ужо былі цяжкія часы. Але ж работнікі «Белсаюздруку» змаглі захаваць свой профіль, прапануючы людзям разам з прадуктамі харчавання купляць перыядычныя выданні і не даць ачарсцвець духоўна. А гэта зрабіць маглі толькі прафесіяналы, якія, акрамя веры, ніколі не забываюць пра пачуццё локця.

**Гутарыў Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

***Калектывам прадпрыемстваў «Белсаюздруку»***

*Паважаныя калегі!*

*Прыміце сардэчныя віншаванні з нагоды 80-гадовага юбілею заснавання сістэмы распаўсюджвання перыядычнага друку.*

*Штодня амаль кожны з нас наведвае крамы і кіёскі «Белсаюздруку», набываючы газеты, часопісы, іншы неабходны ў побыце тавар. Ваша карпатлівая праца патрэбная ўсім нам, бо яна з'яўляецца ланцужком, што звязвае плён журналісцкага пошуку з чытачамі перыядычных выданняў.*

*У Рэспубліцы Беларусь захавана цэласная сістэма прадпрыемстваў «Белсаюздруку», усе яны рэнтабельныя і маюць добрыя перспектывы развіцця ў будучым.*

*Прыміце шчырыя словы падзякі за вашу нястомную працу. Жадаю моцнага здароўя, дабрабыту вам, вашым сем'ям.*

**Міхаіл ПАДГАЙНЫ,**
**Старшыня Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку.**

*Газета* ***«Звязда»****, якой таксама споўнілася 80 гадоў, як ніхто іншы разумее, што без добра арганізаванага распаўсюджвання любое выданне існаваць не можа. Газета, часопіс існуюць толькі тады, калі маюць чытача. А ладзяць сустрэчу паміж імі тысячы і тысячы работнікаў сістэмы «Белсаюздруку», якая святкуе свой 80-гадовы юбілей. Радасці Вам і здароўя, нашы першыя чытачы і дарадцы.*

**Калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, на большай частцы тэрыторыі снег. Вецер паўночна-ўсходні, 5—10, парывы да 14 м/сек. Тэмпература паветра ў Віцебску — 7—9, Магілёве, Гомелі — 6—8, Мінску — 5—7, Брэсце, Гродне — 4—6 градусаў марозу.

У наступныя двое сутак часам снег, вецер паўночна-ўсходні, 3-8 м/сек. Тэмпература ўначы — 10—15, месцамі па поўначы да 20, удзень — 6—11 градусаў ніжэй нуля.

**Аглядальнік «Звязды» сустрэўся з рэктарам Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі прафесарам Міхаілам ДЗЕМЧУКОМ. Тэма іх гутаркі — «Студэнт на рубяжы стагоддзяў: адчуванне перспектывы».**

*Кампетэнтны суразмоўца*

# АКАДЭМІЯ САЦЫЯЛЬНАГА АПТЫМІЗМУ



**— СПАЧАТКУ я хачу звярнуць увагу чытача на вельмі неардынарны па сённяшнім часе факт: новы навучальны год політэхнічная акадэмія пачала з таго, што 70 яе выкладчыкаў і супрацоўнікаў атрымалі ключы ад кватэр у новым доме па вуліцы Усходняй. У бліжэйшых планах яшчэ два жылыя дамы. Далёка не кожнае буйное прадпрыемства можа сёння гэтым пахваліцца.**

— Мінулагодні верасень мы таксама адзначылі наваселлем — у новым студэнцкім інтэрнаце. Так што нараджаецца неблагая традыцыя.

**— А яшчэ, я чуў, летам вы адкрылі санаторый-прафілакторый БДПА на Мінскім моры, і гэта было вельмі дарэчы: пачыналіся канікулы і сезон водпускаў. Асабіста я ведаю толькі два такія прыклады: нягледзячы на ўсе крызісы, масквічы будуюць і рэстаўрыруюць Маскву, а беларускія палітэхнікі — сваю акадэмію. Адкуль грошы, Міхаіл Іванавіч?**

— Можа, нехта не паверыць, але — зарабляем самі. У дадатак да традыцыйна сціплага бюджэтнага фінансавання. Зараз без гэтага проста не выжывеш.

**— Вось я першы і здзіўляюся. Падзяліцеся «ноу-хау». Зарабляеце — за кошт чаго?**

— Крыніцы нашы цалкам «празрыстыя». Як вядома, побач з бясплатнай у нас існуе і платная форма навучання, у тым ліку замежных студэнтаў. І гэта самая важкая крыніца. Мы распрацоўваем і вырабляем па заказах прадпрыемстваў абсталяванне і апаратуру. Вядзём перападрыхтоўку кадраў для народнай гаспадаркі і выкладчыкаў ВНУ, аказваем іншыя адукацыйныя паслугі — курсы, семінары, лекцыі на прадпрыемствах. Плюс паслугі спартыўна-аздараўляльнага цэнтра, плата за арэнду памяшканняў. Праўда, апошняя будзе паступова «мялець», бо акадэмія расшыраецца, павялічваецца набор студэнтаў, з'яўляюцца новыя навуковыя лабараторыі, цэнтры і нават свае прадпрыемствы, так што плошчы самім патрэбны.

Каб не быць галаслоўным, скажу, што ў І паўгоддзі нашы даходы ад пазабюджэтных паступленняў склалі 46 мільярдаў рублёў.

**— Што ж, калі рэктарам становіцца ўчарашні віцэ-прэм'ер, то цалкам лагічна чакаць эфектыўнага гаспадарання. А як наконт іншых ВНУ, у іх ёсць магчымасці — навуковыя, кадравыя, вытворчыя і нейкія іншыя — каб зарабляць «надбаўку» да бюджэту? Як вы лічыце?**

— У той ці іншай меры зарабляць на жыццё могуць многія навучальныя ўстановы, калі мець на ўвазе, што ВНУ — яшчэ і навуковы, гэта значыць інавацыйны, цэнтр. Іншая справа, што эканоміка перажывае не лепшыя часы, і гэта значна абцяжарвае справу, робіць яе «звышзадачай». Нам дапамагае тое, што ўвесь, я падкрэсліваю, увесь прафесарска-выкладчыцкі калектыў, многія студэнты скіраваны на пошук нашай уласнай нішы, на прыкладны характар навуковых даследаванняў.

**— Ведаеце, што больш за ўсё падабаецца ў такой калектыўнай пазіцыі? Вы даяце сваім студэнтам самае каштоўнае: адчуванне перспектывы. У студэнта вочы шырока адкрыты, ён бачыць, што краіна б'ецца як рыба аб лёд у цісках эканамічнага крызісу. І ў той жа час ён бачыць, што яго родная акадэмія будуе жылыя дамы для выкладчыкаў. Узводзіць новыя інтэрнаты. Адпраўляе яго сяброў па пуцёўках на поўдзень, да мора, адпачываць. Значыць, не ўсё так безнадзейна. Нават зусім не безнадзейна. Менавіта такое перакананне студэнты прынясуць з сабой у працоўныя калектывы, гэта іх першы сацыяльны вопыт.**

**У праблемы ёсць адзін аспект. Пачуццё аптымізму прысутнічае, калі юнак ці дзяўчына ўпэўнены, што іх веды будуць запатрабаваны і што заўтрашняя прафесія — «рыначная». Сёння галоўны дыктатар — рынак. У якой ступені вы да яго прыслухаліся?**

— Я магу адказаць на ваша пытанне надзвычай «наглядна». У апошнія гады небывала ўзрос конкурс у акадэмію. Па асобных прафесіях — да 10 чалавек на месца. Гэта сведчыць, што набор прафесій цалкам рыначны. А ўсяго мы рыхтуем кадры для народнай гаспадаркі па 46 спецыяльнасцях. Сёлета найбольш папулярнымі на дзённым аддзяленні былі спецыяльнасці «эксплуатацыя транспартных сродкаў», «экалагічны менеджмент і аўдыт у прамысловасці», «праграмнае забеспячэнне інфармацыйных тэхналогій». Для нас прыярытэтнымі з'яўляюцца такія напрамкі ў падрыхтоўцы кадраў, як прадпрымальніцтва, бізнес, менеджмент. Два факультэты спецыялізуюцца на іх, на астатніх дзейнічаюць кафедры, цесна звязаныя з эканомікай вытворчасці. Праўда, мы не перахопліваем ініцыятыву ў «наргаса», там крышку больш тэорыі, у нас — крышку больш практыкі. ,Мы — «чорнарабочыя эканомікі».

У гэтае прагматычнае вызначэнне я ўкладваю і долю рамантыкі. Хоць сёння студэнт пайшоў менш рамантычны, а больш «злосны» на вучобу, ён нядрэнна ведае, чаго хоча. Разумее, што дзелавая кар'ера, а вельмі часта і выжыванне залежаць ад узроўню прафесіяналізму. Многія ўжо ў сценах акадэміі распрацоўваюць пакет дакументаў для арганізацыі ўласнага прадпрыемства, і мы падтрымліваем гэтае імкненне. Знаходзім магчымасць стымуляваць і проста выдатную вучобу. Перш за ўсё за кошт пазабюджэтных паступленняў. Яны дазваляюць акадэміі трымаць нейкі сярэдні ўзровень фінансавання навучальных праграм і сацыяльнай сферы, і акрамя таго стварыць неблагую сістэму стымулаў. Каб лепш падрыхтаваць нашых выпускнікоў да работы ўжо ў XXI стагоддзі, ва ўмовах высокіх тэхналогій, рыначнай эканомікі.

**— І для гэтага вы пачалі скупляць мінскія прадпрыемствы.**

— Удакладнім: мы купілі ў прадпрыемстваў некалькі пуставаўшых вытворчых памяшканняў. Скажам, адна з нашых навукова-вытворчых фірмаў набыла пуставаўшы корпус МПОІДа з прылеглымі пабудовамі. Плануем стварыць яшчэ адзін уласны завод, на якім тэорыя будзе падмацавана практыкай. У нас ужо ёсць, дзейнічаюць доследная вытворчасць, шмат навукова-вытворчых фірмаў, нядаўна завершана будаўніцтва доследна-эксперыментальнага завода «Палітэхнік». Наступным крокам стане стварэнне політэхнаполіса з прыцягненнем эфектыўных навуковых структур іншых ВНУ.

**— На Захадзе моднай становіцца інтэрнацыяналізацыя вышэйшай прафесійнай падрыхтоўкі. У нашай сітуацыі інтэрнацыяналізацыя магла б дапамагчы разбурыць пэўную сцяну адчужэння паміж айчыннымі спецыялістамі і сусветным вопытам. І даць ім тое адчуванне перспектывы, пра якое мы гаварылі.**

— Мы яшчэ раней аб'явілі, што будуем ВНУ адкрытага тыпу. Цесныя сувязі больш чым з 30 тэхнічнымі універсітэтамі свету — асабліва Германіі, Польшчы, Швецыі, Фінляндыі — дазваляюць актывізаваць абмен студэнтамі, аспірантамі, выкладчыкамі. Фактычна сёння ў любога нашага выдатніка, які да таго ж валодае замежнай мовай, ёсць шанц павучыцца або пастажыравацца працяглы час за мяжой.

На нашай базе адкрыта міжнародная акадэмія тэхнічнай адукацыі, прэзідэнтам якой я з'яўляюся. Удзельнічаюць краіны Прыбалтыкі, Расія, Украіна, Польшча, Італія. Працуюць міжнародны лазерны цэнтр тэхнікі і тэхналогій, кафедра ЮНЕСКО па ўзнаўляемых крыніцах энергіі. Усё гэта не дазваляе нам замкнуцца толькі на ўласных набытках і праблемах.

**— Мне здалося, што на перапынку паміж лекцыямі хор студэнцкіх галасоў быў даволі інтэрнацыянальным.**

— У нас вучацца маладыя людзі з Блізкага Усходу, з Непала, Індыі. А таксама афрыканцы, нарвежцы, швейцарцы, французы, ёсць немцы. Што сведчыць пра пэўны імідж у свеце. І стварае прадпасылкі для ўзмацнення чыста эканамічных кантактаў з тымі краінамі, спецыялістаў для якіх мы рыхтуем. Гэтыя юнакі і дзяўчаты потым узначальваюць прадпрыемствы і федэральныя службы, і яны добра ведаюць, як і дзе ім шукаць дзелавых партнёраў у Беларусі. Ва ўсякім разе, мы іх на гэта арыентуем.

**— І апошняе пытанне. Гісторыя наглядна даказала, што інтэлігент-нігіліст больш разбуральнік, чым стваральнік. А мы, здаецца, жывём у час усеагульнага нігілізму. Акадэмія неяк клапоціцца, каб яе выпускнікі былі натурамі цэльнымі, аптымістычнымі?**

— Я думаю, што нам крыху прасцей, чым гуманітарным ВНУ. Даючы абсалютна канкрэтную, «зямную» прафесію, лягчэй фарміраваць цэльныя натуры. Калі студэнт імкнецца стаць класным інжынерам, то мы лічым, што палова справы ўжо зроблена. Ведаеце, што перашкаджае? Дзве рэчы. Адсутнасць дакладнай мадэлі нашага эканамічнага развіцця. І адсутнасць простай для разумення нават на бытавым узроўні нацыянальнай ідэі, якая магла б згуртаваць грамадства і прымусіла б усіх дружна працаваць. Мы гатовы прадаставіць свой навуковы патэнцыял, каб хутчэй і дакладней вызначыцца. Бо адчуванне перспектывы на пераломе стагоддзяў патрэбна не толькі студэнту, але і ўсім нам.

**Гутарыў Уладзімір ХІЛЬКЕВІЧ.**

*Радыё «Насталькжы»*

# ЗАЎСЁДЫ!?.

Успамін дзяцінства: мяне прымаюць у піянеры. Красавік, сонца, ужо зялёны парк, мы стаім вакол помніка Леніну. Натоўп бацькоў, мікрафон, ля яго піянерважатая. Штосьці яна крычыць, не памятаю што, але высокім голасам, які дрыжыць і зрываецца. Нядзіўна, гэта быў 1970 год, якраз стагоддзе з дня нараджэння Ільіча.

Знамянальныя даты праследуюць мяне ўсё жыццё. Нарадзіўся ў год абвяшчэння Рэспублікі Куба (цяпер — усталяванне рэжыму Кастра). У школу пайшоў у год 50-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі (цяпер — кастрычніцкага перавароту). Нават ва універсітэт умудрыўся паступіць у год прыняцця Канстытуцыі СССР (цяпер — проста брэжнеўскай). Да чаго б гэта?

Добра памятаю, як мне далі мікрафон і я ў яго крыкнуў: «Заўсёды гатовы!» Зараз бы я, пры іншых абставінах, мудра б усміхаўся. Неяк не атрымліваецца. Уражанне, што вакол людзі нема крычаць тое ж, што крычаў некалі і я...

**1.**

Самая яркая тэлекарцінка апошніх тыдняў — святкаванне 80-годдзя камсамола на Кубані. Хто не бачыў, шмат згубіў. Здавалася, зараз на трыбуну выведуць Леаніда Ільіча, ён па паперцы прачытае, што трэба прачытаць, потым выйдуць гарністы. Куды табе «1984» Оруэла..: Гэта б і назвы не мела. Паколькі з'явілася з мінулага, а не з будучага. Фантасмагорыя наадварот.

Нармальна, думаеш, мы жывём у час перамен. Перамен у чым? Перамен да чаго? Ад чаго і да чаго? Пасля размоў з тымі, хто стаіць сёння ў чэргах, ваш пакорны слуга зразумеў адну рэч: змагаецца народ, ён жа — электарат, переважна з сабою.

Гэта няцяжка даказаць, калі стаць у чаргу ў звычайнай прадуктовай краме г. Мінска. Не кажу пра райцэнтр. Там яшчэ горш. Тлумачыцца ўсё проста: калі чаго-небудзь мала, то ўсім, натуральна, можа не хапіць. У такім разе трэба праяўляць пачуццё «жалезнага» локця, у адрозненне ад проста локця. У чарзе за яйкамі адзін чалавек, якому іх не хапіла, становіцца ворагам таго, каму хапіла. Я нічога новага тут не адкрываю, мы ўсё гэта бачылі і нават пачалі забываць. Аказалася, дарэмна.

Але што з гэтага вынікае? Толькі тое, што мы становімся горш. Можна сказаць інакш — мы становімся тымі, што былі. Нас як бы рэанімiравалі. Заўсёды гатовы...

**2.**

Вельмі цікава зараз назіраць за пенсіянерамі. Можа я памыляюся, але яны зараз перажываюць свайго роду другую маладосць.

Ранкам асноўныя наведвальнікі магазінаў — людзі пажылыя. Моладзь на рабоце, магазіны адносна пустыя. Для дзейнасці адкрываецца «аператыўная» прастора. А дзейнасць вядомая: знайсці больш танны прадукт і купіць яго. У вачах — паляўнічы азарт.

У маладосці мы працавалі на Поўначы і дадому прыходзілася ездзіць праз Маскву. Масква — гэта Масква. Там можна было купіць, напрыклад, апельсіны: рэч для правінцыі нябачаная. Дакладна памятаю, што каштавалі яны 2 рублі кіло. Яшчэ лепш памятаю незвычайную радасць, калі ўдавалася без праблем купіць гэты заморскі прадукт.

Яшчэ больш мы радаваліся, калі знаходзілі магазін, дзе прадавалася вараная каўбаса, адзін-два гатункі, не больш. А таксама сыр і масла. Купіш і ідзеш на вакзал з пачуццём пераможцы: я змог, я знайшоў, слава мне!

Калі ўсё гэта скончылася, да нас марудна, цяжка, але пачало вяртацца чалавечае. Ну, хоць бы пачуццё ўласнай годнасці. Не да ўсіх, на жаль. Некаторых выправіць было ўжо немагчыма, як гаворыцца, клінічны выпадак, медыцына бяссільная. Яны былі жывым увасабленнем прынцыпу сацыяльнай справядлівасці. Гэта калі вы жадаеце заўчаснай смерці суседскай карове, якая дае шмат малака. На самай справе многія разумеюць сацыяльную справядлівасць крыху інакш. А гэта толькі зайздрасць.

Гэта калі бедныя зайздросцяць багатым. І тут адно выйсце: пашырыць магчымасці бедных, даць шанц і ім. Уласна кажучы, у гэту спрошчаную формулу і ўмяшчаецца ўвесь складаны, звілісты шлях заходняй дэмакратыі. Навучанай нашым вопытам. Заўсёды гатовы!

**3.**

Ці магло быць інакш? Тут трэба нагадаць, што людзі такія, якія ёсць. Яны і пры нараджэнні Хрыстовым былі ў асноўным такімі ж. Што з таго, што яны запускаюць касмічныя караблі і навучыліся кланіраваць жывёл?

Таму, думаю, усё ідзе па загадзя вызначанаму сцэнарыю. Так, можна вынайсці нешта экстраардынарнае, і назаўтра мы будзем жыць у прынцыпова новым свеце. Але і пры гэтым знойдзецца хто-небудзь, хто будзе жадаць смерці суседскай карове.

Іншымі словамі, чалавек жыве так, як прывык жыць учора. Усе краіны, якія завяршылі сацыялістычны эксперымент, паўтарылі адзін і той шлях. Спачатку да ўлады прыходзяць «прасунутыя» дэмакраты, пачынаюць рэформы па заходняму ўзору, не маючы ніякага вопыту, апрача кніжнага. Насельніцтва бяднее, галадае, губляе апошнія грошы. Тут улада мяняецца, да яе прыходзяць тыя, хто абяцае вярнуць прывычнае жыццё, а людзі вераць у першую чаргу ў ілюзіі. Ды і да ўлады прыходзяць тыя ж, што былі і раней, толькі для заваявання электарату яны выкарыстоўваюць іншую сістэму міфаў. Партыя ўлады — гэта не мастацкая прыдумка журналістаў. Яна сапраўды ёсць, як ёсць людзі, загадзя згодныя падпарадкоўвацца, і ёсць тыя, хто гатовы імі кіраваць. Заўсёды гатовы!

**4.**

Тое, што адбываецца ў Расіі, тое, што адбываецца ў нас (у нас пачалося крыху раней), усе гэтыя святкаванні юбілеяў, дэманстрацыі пад чырвонымі сцягамі, партрэты Сталіна і Леніна — проста прыступ настальгіі і неўміручае жаданне вярнуцца ў прывычнае рэчышча.

Нам далі такую магчымасць. Ну, амаль далі. Чаму не відаць шчаслівых твараў? Ці ёсць людзі, поўнасцю задаволеныя сваім жыццём?

Мы зноў цяпер усе роўныя. Можна зноў пачынаць усё спачатку. Дзяліць і размяркоўваць. Адбіраць і зноў дзяліць. Карацей кажучы, рабаваць нарабаванае. Але пра гэта сказана яшчэ ў Біблії: «Прыйшлі сем схуднелых кароў і пажралі сем тлустых кароў». Што ў выніку? Правільна, сем схуднелых кароў.

... Падслуханая ў чарзе размова дзвюх бабулек: «Дэмакраты, дэмакраты... Ды хай бы былі дэмакраты... Зноў талоны, зноў па магазінах бегай. Ведаеце, я ўжо стамілася і ніякіх маіх сіл няма».

Заўсёды гатовы!

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

*Уладзімір МАЦКЕВІЧ:*

# БІЯТЛОН БЫЎ І ЗАСТАНЕЦЦА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ГОРДАСЦЮ

**Лепшыя беларускія біятланісты пасля немалых цяжкасцяў, звязаных са здабываннем валюты, адправіліся на трэніровачны збор у Швецыю. Затым яны пераедуць у Аўстрыю, дзе і прымуць удзел у першых афіцыйных спаборніцтвах сезона, якія ўваходзяць у залік Кубка свету. Арганізаваў гэту перадстартавую падрыхтоўку прэзідэнт Беларускай федэрацыі біятлона Уладзімір Мацкевіч. Гэта быў, бадай, яго першы практычны крок на грамадскай пасадзе. Няспешнае «ўзыходжанне» старшыні КДБ рэспублікі ў сваю новую ролю можна расцаніць, як намёк на вядомае выказванне: хто павольна запрагае, той хутка едзе.**

Некаторых сваіх ідэй, якія датычаць развіцця аднаго з папулярных у рэспубліцы зімовых відаў спорту, кіраўнік федэрацыі не ўтойвае. На яго думку, перш за ўсё, трэба па-новаму арганізаваць работу прэзідыума гэтай грамадскай арганізацыі, якая па існуючай традыцыі замыкаецца ў асноўным на падрыхтоўцы зборнай каманды і яе праблемах. І гэта, вядома, правільна, бо зборная каманда — як наш флаг, а яе перамогі — нацыянальная гордасць.

У сувязі з гэтым, прызнаецца Уладзімір Мацкевіч, яго і раней хвалявала думка: хто будзе ў будучым прадстаўляць Беларусь на чэмпіянатах свету, буйнейшых кубкавых спаборніцтвах і асабліва на Алімпійскіх гульнях.

Не выпадкова пасля стартаў у Нагана загаварылі аб тым, што вялікі спорт пакідаюць самыя выдатныя нашы майстры Аляксандр Папоў і Святлана Парамыгіна, якія заўсёды былі не толькі лідэрамі ў сваіх камандах, але і цудоўным прыкладам для моладзі. Не стала цяпер у зборнай славутага Папова, які перайшоў, на шчасце, на трэнерскую работу ў створаную ў гэтым годзе алімпійскую каманду. Паводле прызнання спартсменаў і трэнераў, якія добра ведаюць расстаноўку сіл у біятлонным свеце, на «старым» задзеле беларускія страляючыя лыжнікі яшчэ змогуць скласці канкурэнцыю сапернікам на Гульнях у амерыканскім Солт-Лэйк-Сіці ў 2002 годзе, а што будзе далей?

«Шырокае развіццё гэтага віду спорту, які з'яўляецца для Беларусі адным з прыярытэтных, яго фінансавая і матэрыяльная падтрымка, у чым істотную дапамогу могуць аказаць выканкамы ўсіх узроўняў, стварэнне новых баз і дзіцяча-спартыўных школ — у гэтым напрамку і мае намер весці сваю работу біятлонная федэрацыя», — падкрэсліў яе прэзідэнт.

**Вячаслаў ДУТАЎ, БЕЛТА.**



**Наступны нумар «Звязды» выйдзе ў пятніцу, 20 лістапада.**

ЁН І ЯНА

# КАХАННЕ ПРЫВЯЛО...

**У невялікім мястэчку на поўначы Беларусі, дзе, па спрадвечнай завядзёнцы, усе пра ўсіх ведаюць, пра гэту сям'ю вам нават дасведчаная мясцовая пляткарка раскажа надзіва няшмат. Хіба толькі тое, што прыехалі сюды гэтыя людзі гадоў дзесяць таму аднекуль з-пад Мінска. Што Аляксандра Іванаўна выкладае ў школе рускую мову і літаратуру, а яе муж Віктар — млынар ды яшчэ слесар у калгасных майстэрнях. Што ў іх адзінае позняе дзіця — дванаццацігадовая Любка, якая праз пару гадоў абяцае стаць пакутай для ўсіх вясковых хлопцаў — такая харашуха. Што муж за жонку значна, гадоў на восем, маладзейшы, але ледзь не на руках яе носіць, і заўсёды, у любой кампаніі, пяшчотна называе яе Алесяй, бы маладзенькую дзяўчыну... На гэтым, бадай, пляткарка і змоўкне, марна стараючыся прыгадаць, што ж такое яшчэ можна расказаць пра гэтых людзей...**

КАЛІ Б ЯНА ВЕДАЛА ўсю іхнюю гісторыю, вам бы давялося слухаць яе цэлы дзень. Я ж пастараюся заняць крыху менш вашага часу...

Больш за дваццаць гадоў таму ў невялікай вясковай школцы з'явілася маладая настаўніца. Шмат гаварылі аб новым чалавеку на вёсцы: і што гарадскія строі мяняе кожны дзень, і што прыгожая вельмі, адны вялізныя зялёныя вочы якія! Толькі надта ўжо таненькая, здаецца, ледзь падзьме мацнейшы вецер, дык і пераломіць. І што прыехала ў школу са сталіцы не па размеркаванню, а добраахвотна, што ўжо наогул незразумела было: усе з вёскі ў горад, а яна наадварот, дурніца... Але шмат чаго вёска і не ведала. Што гэта «дурніца», напрыклад, пакаштавала ўжо сталічнага жыцця: два гады ў школе адпрацавала. Што за свае няпоўныя дваццаць пяць паспела яна «схадзіць замуж», а потым муж раптам сабраў рэчы і пайшоў жыць да яе лепшай сяброўкі. Што ўцячы ёй ад той абразы і бяды не было куды: маці памерла, а бацька падаўся ў прымакі да цёткі з суседняй вуліцы. Што ў вёску яна прыехала «залізваць раны», мяркуючы, што самаадданая праца і цішыня, у якой ніхто цябе не ведае, дапамогуць знайсці хаця б адносны спакой і забыццё...

Ёй гэта амаль удалося. Вясковыя кавалеры баяліся заляцацца да настаўніцы: занадта ганарлівай і непрыступнай здавалася. З вучнямі знайшла паразуменне неяк адразу, таму праца прыносіла вялізнае задавальненне. Асабліва лёгка і хораша было ёй з дзесятым класам: ненашмат маладзейшыя, выпускнікі ўспрымалі яе як сяброўку, з якой можна пагаварыць пра тое, што хвалюе... Яе ціхі свет ледзь не парушыла адно сачыненне, калі ў апошнім абзацы прачытала: «Я закахаўся ў галоўную гераіню. Ведаеце, Аляксандра Іванаўна, яна вельмі на вас падобная, чытаючы пра яе я ўяўляў вас. Калі б вы заўсёды былі побач, я быў бы самым шчаслівым чалавекам». Ад прачытанага ажно пацямнела ўваччу, а потым махнула рукой: гэта ж пісаў Віцька, галоўны жартаўнік і нахабнік дзесятага, ад выбрыкаў якога не раз даводзілася чырванець, а то і ўпотай паплакаць пасля ўрока. Пад сачыненнем з'явілася тлустая «двойка», небеспадстаўная, дарэчы: граматычных памылак хапала. Пра тое прызнанне не ўзгадала нават, нібы і не было яго. Дый аўтар сачынення маўчаў...

Загаварыў ён толькі на сваім выпускным, калі, кружачыся з ёю ў вальсе, весела прамовіў: «Аляксандра Іванаўна, выходзьце за мяне замуж». Яна ўспрыняла як жарт: «Што ты, Віця, схадзі хаця ў армію, падрасці». Дык пакуль я ў арміі буду, вас хто-небудзь зойме...» Яна залівіста засмяялася і не перастала смяяцца нават тады, калі ён моцна сціснуў руку і сказаў: «А я сур'ёзна. Так што падумайце...»

Цэлае лета ён хадзіў за ёй следам. Не надакучаў размовамі, толькі зрэдку пытаў: «Вы яшчэ не перадумалі?» Яна кожны раз адмахвалася: «Ішоў бы ты, Віктар, з дзяўчатамі лепш пасядзеў. Вунь людзі ўжо смяюцца». А сябе супакойвала: дурасць у хлопца юначая, хутка пройдзе. І ўсё часцей лавіла сябе на тым, што не вельмі яна і хоча, каб у яго гэта праходзіла...

А пад восень ён хадзіць перастаў. Затое прыйшла яго маці. «Шурачка, дзіцятка, не губі майго хлопца. Не п'е, не есць, сохне на вачах. Як дачку родную цябе прымем...» Яна тады і расказала кабеце ўсё: і пра ўзрост (на вёсцы ёй давалі гады на чатыры меней), і пра замужжа сваё няўдалае. А тая і слухаць не хацела нічога: «Міленькая, хочаш, на калені стану. Не будзе без цябе майму Віцьку шчасця». — «Ды нашто я яму такая? Лепш з'еду адсюль, праз пару месяцаў і забудзецца...» — «Не, дачушка, ты не ведаеш, ён у мяне такі чумавы, на краі свету знойдзе...»

У кастрычніку згулялі сціплае вяселле. А ў лістападзе малады муж пайшоў у салдаты. Яна жыла са свякрухай, амаль штодня атрымлівала пісьмы, пісала сама, са здзіўленнем думаючы, што не ўяўляе, як жыла раней без гэтага хлапчаняці, які пяшчотна, як калісьці маці, называў яе Алесяй. А калі праз два доўгія гады ён нарэшце да яе вярнуўся, дарослы, узмужнелы, адчула, што, вось, нарэшце, яно, тое, што шукала, — спакой, і шчасце...

На вечар сустрэчы пайшлі ў школу разам. Сабраўся нарэшце той яе любімы дзесяты. Іх пара была ў цэнтры ўсеагульнай увагі. Асабліва цікавілася справамі Віктара Ірына, дзяўчынка, з якой ён сядзеў калісьці за адной партай. Папрыгажэлая, студэнтка сталічнай ВНУ, яна вельмі выдзялялася сярод астатніх. Увесь вечар Віктар танцаваў з ёю. Аляксандра і не пярэчыла: у самой танцаваць не было настрою. Зазбіралася дадому, убачыла, што мужа няма ў зале, пайшла шукаць... Яны стаялі ў паўцёмным калідоры, Віктар абдымаў Ірыну за плечы, нешта гулліва гаварыў ёй на вуха...

Пакуль ішла дадому адна, думкі імчалі ліхаманкава, але дакладна. Яна ведала, што гэта калі-небудзь здарыцца: знойдзецца маладзейшая, прыгажэйшая. Яна ўжо гэта праходзіла. Яна не хоча, каб гэта паўтарылася, такога ўдару па самалюбству яна проста не перажыве. Яна ведае, што рабіць, — пакуль не кінулі яе, яна кіне сама.

Ранкам, калі свякруха і муж спалі, яна сабрала самае неабходнае з рэчаў, пакінула сяброўцы-завучу заяву аб звальненні і адрас «да запатрабавання» ў Мінску, села на першы аўтобус і паехала ў горад. Адтуль — на самалёце да Свярдлоўска. Адтуль — у горад Ніжні Тагіл, дзе жыў дзядзька, матчын брат, адзіная родная душа на свеце (бацьку яна пахавала за год да таго). Прыстанішча было надзейнае: нават калі муж падумае шукаць, не знойдзе — пра дзядзьку яна ніколі ні яму, ні свякрусе не казала.

Дзядзька і яго жонка ні аб чым яе не распытвалі, прынялі як сваю, выдзелілі асобны пакой, дапамаглі ўладкавацца па спецыяльнасці...

Родныя ніколі нічым яе не папракалі. Але праз тры гады ёй стала здавацца (а мо так і было), што цётка скоса пазірае, а дзядзька цяжка ўздыхае, гледзячы на яе. Каб не быць людзям абузай, яна вырашыла паехаць у іншае месца. У аблана накіравалі маладую настаўніцу ў аддалены ўральскі пасёлак Верхнія Сергі. Там было цяжэй: іншыя людзі, іншая гаворка, іншыя нравы. Яна была там чужая. Нярэдка, седзячы ў замеценай па самыя вокны хаце, шкадавала аб тым, што паехала нават не пагаварыўшы з мужам. Некалькі разоў парывалася напісаць яму, ды не рашалася: а раптам у Віктара ўжо іншая сям'я? Навошта вярэдзіць душу чалавеку? Яна сама зрабіла свой выбар. І яна ніколі яму не напіша. Яна навучыцца ў мясцовых жанчын вязаць пуховыя хусткі, і тады вечары будуць не такія пакутліва-доўгія...

Праз два гады яна ўжо вывязвала адмысловыя хусткі на продаж. Чытала кнігі, правярала сачыненні. У яе адзінокі дом прыйшлі раўнавага і спакой. Засталося дачакацца забыцця.

Замест забыцця з'явіўся ён. З марозу, увесь засіveralы. Пасталелы. Зайшоў у хату, з лёгкім папрокам сказаў, нібы не пяць гадоў таму, а толькі ўчора яна паехала: «Паедзем, Алеся, дамоў. Там маці сумуе вельмі, зачакалася цябе». Яна зрабіла няўпэўнены крок насустрач, і без прытомнасці рухнула на дужыя рукі.

Яны вярнуліся дадому. Свякруха, пастарэлая, згорбленая ўжо, заплакала. Але ні словам не папракнула. Затое вёска гула як вулей. Яны цярпелі, бо ім было ўсё роўна. Але калі нарадзілася Любка, вырашылі паехаць у іншае месца, каб дачка не расла сярод плётак пра маці і бацьку. Выбралі мястэчка сярод лясоў і невялікіх азёр, пабудавалі дом...

Аляксандра так і не даведалася, як, якімі шляхамі ён яе адшукаў праз пяць гадоў. Спытала была ў свякрухі, тая толькі плячыма паціснула: «Я ж табе казала: чумавы». Сам Віктар на ўсе роспыты і жончыны, і добрых знаёмых, што ведаюць іхнюю гісторыю (як я, напрыклад,) адказвае жартаўліва: «Каханне прывяло»...

А можа і не жартуе ён зусім?..

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

БЕЛАРУСЬ—РАСІЯ: РЭАЛІІ СУВЯЗЯЎ

# Волга шукае рэчышча да Бярэзіны

**Гэты дакумент з'явіўся на свет на мінулым тыдні. Ён стаў практычным увасабленнем у рэальнае жыццё вынікаў нядаўняга візіту ў Мінск дэлегацыі адміністрацыі Ульянаўскай вобласці на чале з яе кіраўніком Юрыем Гарачавым і ў прыватнасці сустрэч прадстаўнікоў Паволжжа з прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам. Вось змест дакумента:**

***«Акт вынікаў інспекцыйнага кантролю гатоўнасці Барысаўскага завода «Аўтагідраўзмацняльнік» да вытворчасці гідравузлоў рулявога кіравання для аўтамабіляў акцыянернага таварыства «Ульянаўскі аўтамабільны завод».***

*У перыяд з 3 па 6 лістапада 1998 года камісіяй АТ «УАЗ» праводзілася праверка стану вытворчасці прадукцыі, выраблямай на Барысаўскім заводзе «Аўтагідраўзмацняльнік», для ацэнкі магчымасці і гатоўнасці прадпрыемства вырабляць прадукцыю для АТ «УАЗ».*

*У ходзе праверкі ўмоў вытворчасці камісіяй устаноўлена наступнае:*

*1. Умовы вытворчасці вырабаў: механізма рулявога кіравання ШНКФ 453461.130, помпы гідраўзмацняльніка руля ШНКФ 453472.100 і бачка помпы 453473.300 — забяспечваюць выраб прадукцыі ў адпаведнасці з патрабаваннямі нарматыўнай дакументацыі і стабільныя паказчыкі якасці ў аб'ёмах да 40 тысяч штук кожнага наймення на 1999 год з магчымасцю нарошчвання магутнасцяў для задавальнення поўнай патрэбнасці АТ «УАЗ».*

*2. Канструктарска-тэхналагічная база вытворчасці мае унікальныя магчымасці для вырабу прадукцыі, адпаведнай лепшым сусветным узорам.*

*3. На перыяд праверкі вышэйназваныя вузлы сертыфікаваны нацыянальнымі сістэмамі сертыфікацыі Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі».*

Дакумент падпісалі: намеснік генеральнага дырэктара АТ «УАЗ» Валерый Паўлаў, начальнік аддзела падрыхтоўкі вытворчасці «УАЗа» Уладзімір Тулякоў, галоўны металург завода Анатоль Зінчаў, галоўны метролаг Аляксандр Чэчукоў, начальнік канструктарскага бюро АТ «УАЗ» Яўген Прашанаў.

На першы погляд — сухая, спецыфічная рабочая паперчына. Але гэта толькі на першы погляд... За яе ж зместам — настойлівая, у неймаверна цяжкіх умовах, праца шматтысячных калектываў двух вядомых у сваіх дзяржавах прадпрыемстваў па пошуку шляхоў выхаду з эканамічнага крызісу, які ахапіў і Рэспубліку Беларусь, і Расійскую Федэрацыю: першую, дзякуй Богу, у меншых маштабах, другую — на няшчасце — куды глыбей і шырэй, чым нас...

Некалі на прасторах Савецкага Саюза, а зараз — у маштабах СНД Барысаўскі завод «Аўтагідраўзмацняльнік» быў і застаецца адзіным вытворцам рулявых механізмаў для аўтамабіляў па сутнасці ўсіх відаў і мадыфікацый. Яшчэ некалькі гадоў назад завод пастаянна і надзвычай моцна ліхаманіла (гэта, так бы мовіць, мякка кажучы): ранейшыя сувязі абарваліся канчаткова і беззваротна, трэба было шукаць выйсце самастойна...

І яго спакваля знаходзяць!

— Інфармацыю аб нашых магчымасцях і рэальным становішчы спраў на Ульянаўскім аўтамабільным заводзе маюць ад суседзяў — Горкаўскага аўтамабільнага гіганта, — гаворыць дырэктар «Аўтагідраўзмацняльніка» Аляксандр Пухавой. — З ім у нас за апошні час склаліся вельмі добрыя, моцныя і ўстойлівыя партнёрскія адносіны. Гаркаўчане характарызуюць нас як самых стабільных і перспектыўных пастаўшчыкоў... У таго ж «ГАЗа» быў вялікі выбар для размяшчэння заказу на выраб рулявога механізма да цяперашніх і будучых аўтамабіляў. За справу гатовы былі ўзяцца адразу некалькі прадпрыемстваў былога абарончага комплексу Расіі, прапаноўвалі свае паслугі і такія вядомыя ў свеце замежныя фірмы, як «Цанрат фабрык» з Германіі і «Адвест» з Англіі. Аднак ніжагародцы спынілі свой выбар на Барысаве: мацней завода па вырабу рулявых механізмаў няма — заявілі яны па сутнасці на ўсю Еўропу.

— Інфармацыя ад ніжагародцаў хаця і блізкая, але ж — чужая, — уступае ў размову начальнік канструктарскага бюро АТ «УАЗ» Яўген Прашанаў. — З мэтай атрымаць уласнае ўражанне, ацаніць рэальныя магчымасці барысаўчан, тэхнічны ўзровень іхняй вытворчасці і гатоўнасць кадраў да выпуску патрэбных нам вырабаў мы і прыбылі сюды з аўдытарскай праверкай у такім прадстаўнічым саставе.

Канструкцыя рулявога механізма на УАЗе не мянялася шмат гадоў, па сутнасці з моманту стварэння самога аўтамабіля. Яна натуральна састарэла і на прадпрыемстве проста вымушаны былі тэрмінова і ўсур'ёз заняцца яе заменай.

— Дапамагла, як гэта часта бывае, яе Вялікасць выпадковасць, — працягвае Я. Прашанаў. — Сустрэліся неяк з галоўным канструктарам «Аўтагідраўзмацняльніка» Анатолем Фянько, разгаварыліся, падзяліліся сваімі праблемамі. У яго — свой галаўны боль, у нас — свой, а інтарэсы нашы супалі: барысаўчанам трэба было знайсці заказчыкаў, нам — стварыць канструкцыю прынцыпова новага рулявога механізма. Быў складзены пратакол аб намерах...

Зазначу: гэта здарылася каля чатырох гадоў назад. Аднак час, а дакладней — тагачасная рэчаіснасць — паставіла перад калегамі-завадчанамі непераадольныя перашкоды. Праўда, работа вялася: А. Фянько і ягоная служба спраектавалі новы рулявы механізм, на Ульянаўскім аўтамабільным падрыхтавалі тэхнічнае заданне, барысаўчане зрабілі канструкцыю і вопытныя ўзоры, на Паволжжы правялі іх выпрабаванне...

— На ўсіх легкавых аўтамабілях, што вырабляем мы па заяўках заказчыкаў, цяпер будуць стаяць гідраўзмацняльнікі барысаўскай вытворчасці, — з цвёрдасцю запэўніў намеснік генеральнага дырэктара АТ «УАЗ» Валерый Паўлаў. — Распрацаваны і запускаецца ў серыйную вытворчасць прынцыпова новы аўтамабіль «УАЗ-3160», іх у 1999 годзе мы выпусцім каля трох тысяч. Вашы гідраўзмацняльнікі будуць устанаўлівацца і на камфортныя аўтамашыны індывідуальнай зборкі, якія мы выпускаем дробнымі серыямі.

Дарэчы, задумы волжскіх аўтамабілебудаўнікоў яшчэ больш вялікія і сучасныя. Распрацаваны таксама і неўзабаве будуць пастаўлены на канвеер новыя «УАЗ-3162» і «Барс» — машыны, што атрымалі даволі станоўчыя водгукі на аўтамабільных салонах і выстаўках. «Цяпер, — вобразна зазначыў начальнік аддзела падрыхтоўкі вытворчасці «УАЗа» Уладзімір Тулякоў, — мы працуем дзень і ноч, каб і іх паставіць на канвеерную зборку ўжо ў наступным годзе. Вядома ж — з гідраўлікай з Барысава, — дадаў ён.

Ад гасцей з Паволжжа ў горадзе на Бярэзіне нічога не ўтойвалі, нічога не прыхарошвалі. Ім усё паказалі, пра ўсё расказалі... У тэхнічнай дакументацыі, падрыхтаванай бакамі, устаноўлены надзвычай жорсткія тэрміны правядзення наступных работ. «У ходзе аўдытарскай праверкі, — сказаў мне В. Паўлаў, — мы пераканаліся ў галоўным: пастаўшчык здольны і гатовы падаваць нам на канвеер прадукцыю гарантаванай якасці».

— Вашы ўражанні аб партнёрах наогул? — спытаў я ў гасцей.

— Усё пазнаецца ў параўнанні, — адрэагаваў Яўген Прашанаў. — На нашым заводзе, напрыклад, сёння няма ніякіх запасаў нават на дзень—другі: ні металу, ні камплектуючых. Усё ідзе з колаў, прама на канвеер. А тут, у Барысаве, мы ўбачылі рытмічную, спланаваную загадзя працоўную дзейнасць, задаволеныя твары рабочых, упэўненасць іх у заўтрашнім дні... Дай Бог, каб так і заставалася надалей! Завод чысты, утульны, усюды парадак і зладжанасць. А ў нас тым часам многія прадпрыемствы поўнасцю прастойваюць...

На «УАЗе», дарэчы, 25 тысяч працуючых. Раней, у савецкія часы, прадукцыя завода ішла ажно ў 54 краіны свету. А яшчэ, напаўжартам, напаўсур'ёз казалі мае субяседнікі, на іхняй прадукцыі раз'язджалі вайскоўцы ўсіх рангаў, начальнікі — па дачах і месцах адпачынку... «І паляўнічыя ўсіх масцей!» — дадаў я. «І яны таксама!» — пагадзіліся госці з Волгі.

— Сёння ў нас каля паўтары тысячы пастаўшчыкоў! — распавядаў В. Паўлаў. — Цяжка, незвычайна цяжка, але, думаецца, мы выжывем. З беларусамі працаваць цікава, яны — надзейныя партнёры, удумлівыя і творчыя спецыялісты і проста добрыя людзі. Мы разумеем іх, яны — на наша шчасце — проста цудоўна разумеюць нас! Неўзабаве барысаўчане накіруюць да нас групу рабочых і спецыялістаў, якія дапамогуць нам асвоіць іхнюю прадукцыю, навучаць працаваць з ёю нашых людзей.

Дырэктар «Аўтагідраўзмацняльніка» Аляксандр Пухавой візітам валжан вядома ж застаўся проста задаволены: «Наша задача сёння — захаваць лідэрства ў вытворчасці і пастаўцы на знешні рынак рулявых аўтамабільных сістэм. Нашы гідраўзмацняльнікі інтэгральнага тыпу ацэнены дастойна, гэту арыентацыю мы пастараемся захаваць і развіць далей і глыбей. Спецыялісты і рабочыя сваю высокую, адпаведную часу, кваліфікацыю не страцілі, патрабаванні да інжынерна-тэхнічных работнікаў вельмі высокія. Матэрыяльна-тэхнічная база ёсць, яе мы папаўняем і ўдасканальваем. Набылі нядаўна пяць проста унікальных станкоў».

Вядома ж, праблема з праблем цяпер ва ўзаемаадносінах і супрацоўніцтве беларускіх і расійскіх пастаўшчыкоў прадукцыі — разлікі і плацяжы за яе. І якім жа было маё здзіўленне, калі па сутнасці ў адзін голас намеснік галоўнага інжынера «Аўтагідраўзмацняльніка», старшыня Савета працоўнага калектыву Яўген Карашкоў і ўсё той жа Валерый Паўлаў заявілі: а ў нас такой праблемы проста няма! Тут адпрацавалі і маюць намер спаўна рэалізоўваць цэлую сістэму работы. «Мы зусім не патрабуем ні ад «ГАЗа», ні ад «УАЗа» ні расійскіх рублёў, ні нават канверсаванай замежнай валюты, — сказаў А. Пухавой. — Заводы працуюць па бартэру. Мы пастаўляем ім вузлы, а адтуль атрымліваем гатовую прадукцыю і рэалізоўваем яе. Попыт на аўтамашыны ёсць, дазвол на рэалізацыю іх ад дзяржавы мы маем таксама... Цяпер рыхтуем і іншыя праекты ўзаемаразлікаў. Але пра іх раскажу наступным разам...»

Такім чынам, палітычныя кантакты кіраўнікоў Рэспублікі Беларусь з расійскімі рэгіёнамі пачынаюць даваць эканамічныя вынікі. Яны сёння так патрэбны і беларусам , і расіянам! «Аўтагідраўзмацняльнік» з Барысава і аўтазавод з волжскіх берагоў становяцца першапраходцамі гэтых кантактаў. Працэс павінен пайсці!

**Анатоль МЯСНІКОЎ,**
**спецыяльны карэспандэнт «Звязды».**

*г. Барысаў.*

*Спажывец*

# КАВА — ПРАДУКТ, ЯКІ ПАТРАБУЕ ТОНКАГА ПАДЫХОДУ

**Радзімай кавы з'яўляецца Эфіопія, а зусім не Бразілія, як, магчыма, лічаць многія аматары гэтага цудоўнага напою. Яшчэ ў XI стагоддзі мясцовыя пастухі заўважылі, што козы, якія елі лісце кафейных дрэў, станавіліся ажыўленымі і гуллівымі. Ад пастухоў даведаліся аб гэтым манахі-місіянеры і пачалі заварваць лісце кафейных дрэў і піць настой, які ўзбуджаў, здымаў стомленасць, павялічваў працаздольнасць. Аб тым жа, што гэтымі ўласцівасцямі яшчэ ў большай ступені валодаюць абсмажаныя кафейныя зярняты (насенне пладоў кафейнага дрэва), людзям стала вядома значна пазней. Абсмажванне зярнят узнікла выпадкова: пры спальванні кустоў кафейнага дрэва ў попеле знаходзілі смажаныя кафейныя зярняты, жавалі іх, або гатавалі ўзбуджальны напой.**

З Эфіопіі кава праз Чырвонае мора трапіла ў Аравію (Йемен), дзе глебава-кліматычныя ўмовы былі таксама спрыяльнымі для культуры кафейнага дрэва. Два стагоддзі Йемен быў адзінай краінай, якая пастаўляла каву на сусветны рынак. Зярняты кофе вывозіліся ў еўрапейскія краіны праз порт Мока, назва якога па сённяшні дзень служыць гандлёвай маркай лепшых гатункаў кавы.

Першыя публічныя кавярні былі адчынены ў 1564 г. — у Стамбуле, у 1652 г. — у Лондане і ў 1672 г. — у Парыжы. У XVIII стагоддзі кафейнае дрэва пачалі культываваць на востраве Ява і ў Цэнтральнай Амерыцы. У Бразілію ж кава трапіла толькі каля 200 гадоў таму і, пачынаючы з 1834 года, стала галоўнай сельскагаспадарчай культурай і крыніцай даходаў гэтай краіны.

Кофе — адна з вядучых культур тропікаў. Кафейнае дрэва даўгавечнае, яно пладаносіць да 50 гадоў. Плод кафейнага дрэва вельмі падобны на нашу вішню, але ў ягадзе хаваецца не адна костачка, а два парныя паўавальныя, прыціснутыя адно да аднаго пласкаватымі бакамі зерні. Зерне вызваляюць ад пладовай мякаці, прамываюць, высушваюць і вязуць ва ўсе краіны свету. Гэта сыры, несмажаны кофе. Асобныя яго гатункі адрозніваюцца памерам зярнят, іх формай і колерам.

Спецыфічная каштоўнасць кавы абумоўлена наяўнасцю ў ёй алкалоіду кафеіну, пахучых рэчываў і хлорагенавай кіслаты. Кафеін уздзейнічае на кару галаўнога мозгу, павышае разумовую працаздольнасць і здымае стомленасць. Пры ўжыванні кавы актывізуецца работа сардэчнай мышцы, што спрыяе пашырэнню каранарных сасудаў сэрца. Для гэтага дастаткова невялікай дозы кафеіну — ад 20 да 200 мг. Гэта паўлітра кавы ці чвэрць літра «кока-колы». Аднак павышанае спажыванне кафеіну, злоўжыванне кавай могуць прывесці да празмернай узбуджальнасці, бяссонніцы, сэрцабіцця, прыступаў язвеннай хваробы, дрыжыкаў і нават да прыступаў страху.

А цяпер некалькі слоў аб тэхналогіі прыгатавання кавы. Сырое, прамытае і абсушанае зерне не валодае пахам і смакам гатовай кавы. Яно з цяжкасцю перамолваецца ў парашок і не разварваецца. Таму яго неабходна падвяргаць уздзеянню тэмпературы ў 180—200 градусаў у спецыяльных абсмажвальных апаратах, пасля чаго яно набывае карычневы колер, спецыфічны смак і пах.

Кафейныя зярняты можна абсмажыць і ў хатніх умовах у духоўцы на працягу 30—45 хвілін. Аднак хатняе абсмажванне патрабуе шмат увагі, вопыту і ведаў. Важна, каб унутраная частка зерня была дасмажанай, а знешняя — неабпаленай. Пры захоўванні трэба мець на ўвазе, што абсмажаныя і асабліва размолатыя кафейныя зярняты хутка страчваюць свае смакавыя якасці.

У продажы сёння можна нярэдка сустрэць танныя кававыя напоі, якія ўяўляюць сабой сумесь абсмажаных і размолатых зерневых злакаў, цыкорыю, жалудоў і іншых відаў сыравіны з дабаўленнем ці без дабаўлення натуральнай кавы. Такія кававыя напоі рэкамендуюцца для спажывання людзям з сардэчнымі захворваннямі, таму што ў іх або ўвогуле не ўтрымліваецца кафеін ці ён утрымліваецца ў зусім невялікай колькасці.

Існуе шмат спосабаў прыгатавання кавы. Усе яны маюць адну мэту — як мага паўней перавесці ў раствор смакавыя, фарбавальныя і пахучыя рэчывы кавы і не страціць іх у час прыгатавання напою. Пры варцы кавы прыблізна 1/3 частка пераходзіць у раствор, і атрыманы экстракт — адзін з паказчыкаў яго якасці.

Пры гатаванні ў раствор таксама пераходзяць некаторыя непажаданыя ў смакавых адносінах рэчывы. Калі каву не давесці да кіпення, экстрагаванне будзе няпоўным і зменяцца суадносіны асобных смакавых і пахучых рэчываў. На гэтым і заснаваны шматлікія спосабы і сакрэты прыгатавання кававых напояў. Прывядзем некаторыя з іх.

У кафейнік заліваюць халодную ваду, даводзяць яе да кіпення. Здымаюць з агню, усыпаюць каву, перамешваюць лыжкай, кафейнік зноў ставяць на агонь. Як толькі кава падымецца, яе тут жа здымаюць з агню і пакідаюць на некалькі хвілін для адстойвання.

**Кава па-арабску.** У кафейнік аб'ёмам 100 мл кладуць кавалак цукру, наліваюць 80 мл халоднай вады і награваюць да кіпення. Затым кафейнік здымаюць з агню і ўсыпаюць у яго дзве чайныя лыжкі дробна змолатай кавы. Размешваюць, зноў ставяць на агонь і давbooдзяць да кіпення. Здымаюць з агню, даліваюць кафейнік вадой і зноў даводзяць да кіпення.

**Кава па-ірландску.** На шклянку — два-тры кавалачкі цукру і дзве-тры чайныя лыжкі гарэлкі. Запоўніць моцнай чорнай гарачай кавай. Дабавіць крыху вяршкоў ці смятаны.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**





## ПЫТАННІ ДА ЧЫТАЧА

**Аляксандр Рымавіч ЦЫГАНАЎ, рэктар Беларускай сельгасакадэміі *(г. Горкі)***

*1. Чаму вы чытаеце «Звязду»? Што падабаецца ў газеце?*

— Скажу адразу; што, як кіраўнік вядучай аграрнай вышэйшай навучальнай установы Беларусі, я чытаю ўсе рэспубліканскія газеты. Аднак «Звязду» сярод іх вылучаю асобна. Бо, у адрозненне ад іншых, гэта газета наскрозь прасякнута беларускім нацыянальным духам, бо менавіта яна адлюстроўвае спецыфіку нашай дзяржавы і нашага народа.

*2. Што б вам хацелася пажадаць «Звяздзе»?*

— Не сакрэт, што сёння праблемы на вёсцы куды больш складаныя, чым у горадзе. Таму (магчыма, гэта вузкапрафесійны інтарэс) мне хацелася б пажадаць, каб «Звязда» зараз удзяляла больш увагі менавіта вёсцы. І няважна, будуць гэта інтэрв'ю з кіраўнікамі аграпрамысловага сектара або аповяд пра жыццё простых сялян. Галоўнае — памятаць, што адраджэнне любой дзяржавы і любой нацыі заўсёды пачынаецца з вёскі.

## СВЯТА Ў ДЗІЦЯЧАЙ ВЁСЦЫ

**Гэты дзень для дзяцей з «SOS — дзіцячай вёскі «Бараўляны» пачаўся не зусім звычайна. Да іх у госці прыехала дэлегацыя з Міжнароднага фонду эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва паміж Мінскам і Тайбэем, сталіцай Тайваня («ТайМін») і Тайбэйскай гандлёва-эканамічнай місіі ў Мінску. Госці прыбылі не з пустымі рукамі.**

Аляксандр Чабатарэўскі, віцэ-прэзідэнт фонду «ТайМін» паведаміў, што фонд і Тайбэйская місія вырашылі разам зрабіць прыемны сюрпрыз хлопчыкам і дзяўчынкам з «SOS — дзіцячай вёскі» — падарыць цацкі тайваньскай вытворчасці і маляўнічую работу Ілы Румянцава, вучня дзіцячай мастацкай школы № 1, а таксама даць канцэрт, падрыхтаваны вучнямі рэспубліканскага музычнага каледжа — калектыўнымі членамі Фонду «ТайМін».

**Леанід ТУГАРЫН.**

*Рэпарцёр атрымаў заданне...*

# ...ПАГАНДЛЯВАЦЬ З ПРЫВАТНЫМ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАМ

**З чым і адправіўся я на рынак, што размясціўся побач з 51-м жылым мікраараёнам у Гомелі. Месца гэта ажыўленае, шматлюднае і, думалася, гандаль павінен тут ісці бойка, бо тавараў было на рынку шмат. Асабліва ў палатках прыватных прадпрымальнікаў, якія займалі ажно некалькі радоў. Праходзячы паміж імі, заўважыў сваю знаёмую, якую не бачыў гады два. Валянціна Пятроўна тады працавала на адным з прадпрыемстваў горада, а зараз занялася прыватным гандлем. Што прымусіла яе да гэтага — мода на самастойнасць, жаданне разбагацець ці нешта іншае?**

— Не ўгадаў, — адказала яна адразу ж. — Патрэба выжыць. Бо сам ведаеш: муж у мяне няма, а паспрабуй пракарміць і апрануць двух сыноў, адзін з якіх вучыцца ў інстытуце, а другі — у тэхнікуме. Тыя два мільёны рублёў, якія я атрымлівала на заводзе, расходаваліся вельмі хутка, і таму сям'я пастаянна ў даўгі залазіла. А тут сяброўка, якая падалася ў прыватныя прадпрымальнікі, і кажа: кідай работу і бяры прыклад з мяне. Хоць чалавекам сябе адчуеш, як я. Вось і паслухалася яе.

— Пытанне аб тым, дзе ўзяць так званы першапачатковы капітал для абароту, было вырашана ў адзін момант: дапамагла тая ж самая сяброўка, пазычыўшы Валянціне Пятроўне 500 долараў. Прычым без усякіх там працэнтаў. Потым пайшло афармленне адпаведных дакументаў, хаджэнне за імі ў розныя інстанцыі. І нарэшце, доўгачаканы момант: паездка ў Польшчу за таварам. І тут яе дарадцай і настаўніцай была ўсё тая ж сяброўка — купляй тое і тое, глядзі, каб тавар у цабе быў разнастайны і да т. п.

Дык вось, з той першай паездкі ў Польшчу яна прывезла сякія-такія тавары, якія змясціла ў двух баулах, і гандлявала імі з раскладушкі. Палаткай жа разжылася пасля трэцяй «ходкі» ў гэтую краіну, калі пачалі з'яўляцца свабодныя грошы. Але аб вяртанні доўгу сяброўцы размова яшчэ не ішла, бо трэба было больш надзейна стаць на ногі, што тая добра разумела. Карацей кажучы, закуп тавараў па адносна нізкіх цэнах за мяжой і продаж іх дома па больш высокіх нязменна прыносіў дывідэнды. Жыць стала весялей.

З-за хмар нясмелымі промнямі пачало нагадваць аб сабе сонца. Рух пакупнікоў паміж радамі палатак станавіўся ўсё больш інтэнсіўным, і з'яўлялася надзея, што людзі будуць набываць тавары. Усё часцей і часцей яны падыходзілі і да Валянціны Пятроўны, якой усё дапамагаў і я: трымаў люстэрка, калі пакупнікі нешта прымяралі на сябе, падаваў тую ці іншую рэч, расхвальваў тавар. Усё дарэмна: людзі толькі прыглядаліся, прыцэньваліся, але не купілі. Пацікавіўся я ў іншых прыватных прадпрымальнікаў, як у іх ідуць справы. Тое ж самае. Сумныя настрой, сумныя думы, якія, праўда, трохі ажывіў адзін эпізод: міма з расквашаным носам галопам пранёсся брытагаловы хлопец-мацак.

— Кідала, — заўважыла з радасцю ў голасе суседка Валянціны Пятроўны па палатцы. — Напэўна, нехта добра ўрэзаў яму. Так і трэба нягодніку.

І расказала наступнае, што, дарэчы, пацвердзілі і іншыя прадпрымальнікі. Аказваецца, на рынку арудуе група хлопцаў, якія махляраць. Хоча, напрыклад, нехта абмяняць рублі на долары ці наадварот, і двое ці трое хлопцаў разыгрываюць такі «спектакль». Адзін з іх адлічвае грошы, узяўшы баксы ў кліента. Другі ў самы адказны момант крычыць: «Палундра, міліцыя!» Ці нешта накшталт гэтага. Мяняла з грашыма кідаецца ўцякаць, а трэці, назваўшыся міліцыянерам і паказваючы нейкае пасведчанне таму грамадзяніну ці грамадзянцы, якіх ахапіў страх, грозна пытаецца, ці ведаюць яны, якімі штрафамі пагражаюць незаконныя валютаабменныя аперацыі. Тыя пачынаюць апраўдвацца і прасіцца, а мяняль-махляра ўжо і след прастыў.

У першы дзень маёй дапамогі Валянціна Пятроўна так нічога і не прадала. Толькі намерзлася, час ад часу саграваючыся гарачым чаем. Як прызналася пасля, нярэдка было б прыняць і нешта больш моцнае.

Завітаў я на рынак і на другі дзень. Зноў тыя ж натоўпы людзей, зноў халадэча і бязрадасны настрой прадпрымальнікаў і, думаецца, пакупнікоў. У першым таму, што амаль нічога не ўдалося рэалізаваць, а ў другіх па той прычыне, што ўсё дорага. І ўсё ж Валянціне Пятроўне ў параўнанні з іншымі прадаўцамі пашанцавала: дзве дзяўчыны купілі ў яе шалік і адна, каторая была з маці, скураныя зімовыя боты. Вось і ўсё.

— На трэці дзень «размачыла» толькі, — жартавала яна. — Два папярэднія былі пустыя.

— А я думаў, што ў прыватных прадпрымальнікаў жыццё саладкае, — прызнаўся я.

— Думаць можна па таму самаму прынцыпу: там добра, дзе нас няма, — адказала яна. — Але ж ты сам у гэтыя два дні ўсё бачыў, размаўляў з прадпрымальнікамі, (адчуў іхні настрой. Не ведаю, як хто, а вось «палатачнікі» пра фірмачоў-прадпрымальнікаў я не гавару, бо не ведаю іхніх даходаў) у абсалютнай большасці сваёй дзейнасцю апошнім часам яўна не задаволены. Раней было куды лепш. Асабіста я кінула б усю заразў гэты занятак, калі б недзе на вытворчасці мне плацілі без затрымкі хаця б пяць мільёнаў рублёў.

Пасля такога прызнання пачалася больш дэталёвая размова аб рабоце прыватных прадпрымальнікаў - «палатачнікаў». Аказваецца, жывуць яны на грані пастаяннага страху і рызыкі, што не можа не адбіцца на іхнім здароўі. Узяць хаця б той жа абмен беларускіх «зайцоў» на долары, з якімі яны едуць за таварам у Польшчу ці Маскву. Дзе і з кім ён робіцца? Натуральна, з валютчыкамі-мянялямі, якіх, праўда, апасацца не даводзіцца: тыя самі ў пэўнай ступені рызыкуюць. А дзе гарантыя таго, што іх не «засячэ» які-небудзь пераапрануты міліцыянер, якому дадзены канкрэтныя ўказанні: злавіць і даставіць зламыснікаў і парушальнікаў і адабраць у іх грошы на цалкам законных падставах, прадугледжаных вядомымі ўказамі?

Далей. А ці не рызыкуюць прадпрымальнікі, калі ў аўтобусе едуць у Маскву? Летась («Звязда» паведамляла аб гэтым) у Рагачоўскім раёне гомельскі аўтобус быў спынены ўзброенымі грабежнікамі, і прыватныя прадпрымальнікі вымушаны былі развітацца не толькі са сваёй валютай, але і з каштоўнымі рэчамі. А сёлета ўжо колькі было ў Маскве нападаў на іх, каб адабраць грошы? Валянціна Пятроўна сама была сведкай таго, як сярод белага дня адной жанчыне парэзалі руку, а другая бедалага, ледзь паспела ўскочыць у чужы аўтобус, стараючыся выратавацца і не страціць долары. Рэкет на гомельскім рынку? Ён ёсць, як цвердзілі прадпрымальнікі, праўда, намёкам. Брытагаловыя хлопцы прапаноўваюць свае паслугі па «навядзенню даху» хаця і акуратна, але даволі настойліва, і прадпрымальнікам некуды дзявацца. Аднак Валянціну Пятроўну той рэкет абышоў. Яна проста назвала тым хлопцам прозвішча свайго родзіча, вядомага ў горадзе самбіста, які са сваімі сябрамі ў любы момант можа яе абараніць. І брытагаловыя адступілі.

Памеры сваіх прыбыткаў Валянціна Пятроўна не назвала, сказала толькі, што «жыраваць» асабіста ёй не даводзіцца, бо адны месячныя расходы ў выглядзе падаткаў, платы за месца на рынку, паездкі за таварам і г. д. зараз дасягаюць 10-11 мільёнаў рублёў. Жыць пакуль можна на тыя прыбыткі, але яны ўвесь час зніжаюцца і зніжаюцца. І таму яшчэ раз паўтарыла: яна (дарэчы, як і іншыя прадпрымальнікі) вярнулася б на завод, калі б там плацілі ёй хаця б пяць мільёнаў рублёў у месяц.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**



*Званок у карпункт*

# З ГАРАЧАЙ ВАДОЙ, ЯК У СЕВАСТОПАЛІ

**У гродзенскі карпункт «Звязды» патэлефанавалі са Шчучына жыхары дома № 30 па вуліцы Астроўскага: «У нас і ў іншых дамах няма гарачай вады».**

Па тлумачэнні карэспандэнт звярнуўся да старшыні райвыканкама Вінцэнта Казяка і яго намесніка Уладзіміра Белякова. Вось што высветлілася.

Жылыя будынкі па вуліцы Астроўскага доўгі час былі на балансе вайсковай КЭЧ. На той момант, калі гарадок перадалі раённым уладам, камунікацыі знаходзіліся проста ў жудасным стане. Па словах У. Белякова, у зямлі ляжалі голыя трубы. Практычна ўсе грошы з раённага бюджэту, прызначаныя на капрамонт, былі накіраваны туды.

Пралажылі новыя цеплавыя сеткі, пабудавалі новую кацельню. Чатыром жылым будынкам ужо зрабілі нармальнае газазабеспячэнне. Неўзабаве на баланс раёна будзе прыняты вадавод, пасля чаго трэба мяняць трубаправоды.

Гэта запатрабуе вялізных сродкаў, якіх у раённым бюджэце няма, не абысціся без фінансавай падтрымкі з боку аблвыканкама. Раённыя ўлады разлічваюць, што калі з фінансаваннем будзе парадак, дык да восені наступнага года сітуацыя з гарачай вадой нармалізуецца. А цяпер яна кожны дзень пачала падаваца па графіку, як у Севастопалі.

Пры ўсім жаданні інакш пакуль немагчыма.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

**З намеснікам прэм'ер-міністра Беларусі Леанідам КОЗІКАМ гутарыць карэспандэнт «ІНТЭРФАКСА»**



Леанід КОЗІК:



# «ЗАДАЧА ЗАКЛЮЧАЕЦЦА Ў ТЫМ, КАБ АПЕРАТЫЎНА ЗМЯНІЦЬ СІТУАЦЫЮ НА СПАЖЫВЕЦКІМ РЫНКУ»

**— ЛЕАНІД ПЯТРОВІЧ! На нарадзе ў кіраўніка дзяржавы адбылася патрабавальная размова па праблемах насычэння спажывецкага рынку рэспублікі харчовымі і прамысловымі таварамі. Якія меры ажыццяўляе ўрад для таго, каб зняць узніклую вастрыню?**

— Урад ужо зрабіў шэраг канкрэтных крокаў для вырашэння пытанняў, якія хвалююць і кіраўніцтва рэспублікі, і радавых грамадзян. З улікам указанняў прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі яны былі разгледжаны ў сераду на першым пасяджэнні рэспубліканскага штаба пры кіраўніку дзяржавы па каардынацыі дзейнасці дзяржаўных органаў па насычэнню спажывецкага рынку. Выпрацаваныя меры будуць неадкладна ўвасабляцца ў жыццё ўсімі міністэрствамі і ведамствамі.

У гэтай сувязі адзначу, што змяншэнне ў апошні час паставак у гандлёвую сетку некаторых відаў прадуктаў харчавання, у прыватнасці, яек, якое выклікала ў людзей справядлівыя нараканні, адбылося зусім не з-за скарачэння іх вытворчасці, а па прычыне нерастаропнасці адпаведных міністэрстваў і ведамстваў, якія гэтым займаюцца. За першыя 10 дзён лістапада з рэспублікі было вывезена амаль 60 працэнтаў атрыманых яек і мяса птушкі. Вытворцы тлумачаць гэты факт тым, што яны вымушаны ажыццяўляць вываз, каб узамен набыць неабходныя кармы і кармавыя дабаўкі, праблема з якімі сапраўды існуе. Аднак ніхто не дазваляў рабіць такія рэзкія крокі, якія дэстабілізуюць унутраны спажывецкі рынак. Таму на апошнім пасяджэнні прэзідыума Савета Міністраў, на якім разглядаліся гэтыя пытанні, было прынята рашэнне аднавіць тыя аб'ёмы паставак яек у гандлёвую сетку, якія заўсёды існавалі ў рэспубліцы. Гэтае рашэнне ўжо рэалізуецца. Запэўніваю вас, міне некалькі дзён, і ажыятажны попыт спыніцца, паколькі людзі ўбачаць, што гэты тавар з'явіцца на прылаўках магазінаў у дастатковай колькасці.

Што датычыць шэрагу іншых прадуктаў, у прыватнасці, масла, то, зробленыя яго запасы значна перавышаюць запасы 1997 года. Таму, хоць ажыятаж садзейнічаў іх хуткай раскупляльнасці, мы аператыўна павялічылі пастаўку таго ж масла ў магазіны і, напрыклад, у Мінску гэтая праблема фактычна знята.

Акрамя таго, прынята важнае рашэнне па маргарынаваму заводу, што, на мой погляд, неабходна было зрабіць два гады назад. На працягу ўсяго гэтага часу прадпрыемства ўзрушалі розныя сваркі, якія давалі яго амаль да поўнага спынення. Прычым гэта адбывалася таму, што ніхто не браўся вырашыць выключна канкрэтныя задачы. Цяпер такія прапановы ўнесены і адобраны прэзідыумам Савета Міністраў. Прадпрыемству выдзелена пазыка, прыняты яшчэ шэраг мераў і ў бліжэйшы час мы гэты завод запусцім. Прадпрыемства зможа поўнасцю забяспечыць патрэбнасці рэспублікі ў маргарыне, а таксама экспартаваць частку сваёй прадукцыі ў Расію і іншыя краіны СНД. Выручаную ад экспарту валютай завод, дарэчы, зможа разлічыцца па атрыманых крэдытах і наяўных даўгах. Дадам, што запуск маргарынавага завода дасць магчымасць таксама значна павялічыць аб'ёмы вытворчасці маянэзу і дапамажа ў вырашэнні праблемы забеспячэння насельніцтва маслам. Бо сёння цана маргарыну, які завозіцца ў рэспубліку, значна вышэйшая, чым цана масла айчыннай вытворчасці. У выніку людзі, натуральна, купляюць для сваіх патрэб той тавар, які больш танны. Калі ў продажы паявіцца ў дастатковай колькасці больш танны маргарын, гэта, вядома ж, зніз́іць попыт на масла.

У цэлым жа балансы вытворчасці малака і малочных прадуктаў дазваляюць сцвярджаць, што мы не толькі справімся ў гэтым годзе, але і зможам нармальна працаваць да наступнага сезона.

**— У якім стане справы з мяснымі прадуктамі?**

— Для таго, каб больш паспяхова вырашаць праблему насычэння спажывецкага рынку мяснымі прадуктамі, неабходна павялічыць іх закупку ў насельніцтва. Аднак не сакрэт, што людзі сёння не задавальняе цана ў 50—60 тысяч рублёў, якую ім прапануе Белкаапсаюз па дзеючых нормах. Калі чалавеку заплацяць рэальную цану, скажам, па 80—100 тысяч рублёў, то ён не адмовіцца прадаць выгадаваную ім свініну. І прадасць яе хутчэй дзяржаўнай стуктуры ці Белкаапсаюзу, чым якому-небудзь камерсанту. Не гаворачы ўжо аб тым, каб самому ехаць на рынак, куды яго яшчэ не пускаюць усялякія перакупшчыкі, з якімі нашы праваахоўчыя органы, на жаль, змагаюцца не надта паспяхова. Таму прынята рашэнне аб павелічэнні закупачных цэн. Пры гэтым лішкі прадуктаў будуць закупляцца ў насельніцтва дзяржаўнымі арганізацыямі і Белкаапсаюзам з далейшай пастаўкай у гандлёвую сетку. Мяса будзе накіроўвацца і на рынкі. Няхай і яны гандлююць, але цэны таксама будуць значна ніжэйшыя.

**— Не сакрэт, што шматлікія пытанні ў насельніцтва выклікае гандаль імпартнымі прадуктамі харчавання...**

— Праблема з прадуктамі харчавання, якія закупляюцца па імпарту, сапраўды існуе. У першую чаргу гэта датычыць алею, рысу, грэцкіх круп. Таму ўрад прыняў рашэнне аб выдзяленні валютных крэдытаў дзяржаўным арганізацыям, якія ў самы бліжэйшы час завязуць гэтыя прадукты ў неабходнай колькасці. Міністэрства гандлю абавязана неадкладна вызначыць канкрэтныя аб'ёмы закупак імпартных прадуктаў харчавання. Размова пры гэтым не ідзе аб тым, што алею ці рысу ў магазіне будзе занадта многа, але прадавацца яны будуць па больш нізкіх цэнах. Ва ўсякім разе, цана будзе адпавядаць таму кошту, па якому гэтыя тавары можна купіць за валюту за мяжой, дзе яны вырабляюцца. Цэнавага беззаконня, якое мы бачым сёння, не будзе.

Напрыклад, з кіраўніцтвам Крыма адпрацавана пытанне аб пастаўках у рэспубліку 2 тысяч тон рысу. Прычым ужо ўзгоднены тэрміны адгрузкі.

Прынята таксама рашэнне аб прадастаўленні крэдытнай лініі кандытарскім фабрыкам рэспублікі для набыцця какавых зярнят, неабходных для вытворчасці шакаладных цукерак і шакаладу, каб поўнасцю забяспечыць насельніцтва салодкай прадукцыяй да Новага года.

**— Што робіцца для таго, каб забяспечыць попыт насельніцтва на прамысловыя тавары народнага спажывання?**

— Трэба сказаць, што прамысловыя прадпрыемствы рэспублікі, якія выпускаюць гэтыя тавары, не толькі не знізілі, але і нарасцілі аб'ёмы вытворчасці. Праблема ж заключаецца ў тым, што ў апошнія месяцы, калі экспарт у Расію з-за выбухнуўшага там фінансавага крызісу значна скараціўся, гэта не прывяло да адэкватнага павелічэння паступлення тавараў на ўнутраны рынак. Гэты факт сведчыць аб тым, што прадпрыемствы паклалі сваю прадукцыю на склады, з надзеяй на тое, што ім неабгрунтавана павялічаць цэны і яны змогуць такім чынам крыху разбагацець. Гэтае бязмежжа мы таксама спынім. І хоць па прамысловых таварах асаблівых праблем у нас не было, аб'ём іх продажу павінен павялічыцца.

**— Работнікі вытворчасці апраўдваюць сваю пазіцыю існуючай розніцай паміж афіцыйным курсам долара, устаноўленым Нацбанкам рэспублікі, і курсам на Міжбанкаўскай валютнай біржы. Якія меры прымаюцца для вырашэння гэтай праблемы?**

— Зразумела ж, работнікі вытворчасці па-свойму таксама маюць рацыю, бо склалася сітуацыя, пры якой яны вымушаны купляць некаторыя матэрыялы і сыравіну не па існуючаму сёння курсу Нацбанка, а зусім інакш. Не сакрэт, што гэты курс «ценявы» і даходзіць сёння да 300 тысяч рублёў за долар. Таму даўняя праблема існуе.

Яна разглядалася на пасяджэнні прэзідыума Савета Міністраў. Знойдзены пэўныя падыходы да яе вырашэння. Аднак справа заключаецца ў тым, што ажыццяўляемыя ў гэтых напрамках крокі павінны быць такімі, каб яны ніякім чынам не адбіліся на ўзроўні дабрабыту простага чалавека. Таму пошук аптымальных рашэнняў будзе прадоўжаны. Ясна адно — вытворчасцю, а кантроль за цэнаўтварэннем павінен па-ранейшаму заставацца ў дзяржавы, асабліва на сацыяльна значныя тавары і прадукты харчавання.

**— Чым, на ваш погляд, прадыктавана рашэнне прэзідэнта А. Лукашэнкі стварыць штаб па каардынацыі дзейнасці дзяржаўных органаў па насычэнню спажывецкага рынку?**

— Рашэнне кіраўніка дзяржавы яскрава і ставіць на мэце максімальна скаардынаваць дзейнасць розных дзяржаўных органаў, павысіць аператыўнасць у прыняцці і рэалізацыі рашэнняў. Бо чаго граху таіць, даволі часта наша бюракратычная машына, калі трэба прымаць рашэнне, карысць якога відавочная і неадкладнасць не выклікае сумненняў, на працягу некалькіх месяцаў зацягвае вырашэнне пытання, займаецца перакідваннем папер адзін аднаму. А ў такіх сітуацыях, як сёння, патрабуецца аператыўнасць. У гэтай сувязі магу сказаць, што ўжо на першым пасяджэнні штаба быў прыняты шэраг канкрэтных мераў. Упэўнены, жорсткая, але справядлівая пастанова прэзідэнтам пытанняў, якія патрабуюць неадкладнага вырашэння, дапаможа аператыўна рэагаваць на сітуацыі, якія ўзнікаюць, і безумоўна выканаць пастаўленыя задачы.

ЦВЯРОЗЫ РЭПАРТАЖ

# ЭХ, НЕ ПЕРАПІЛІСЯ ЯШЧЭ НА БЕЛАЙ РУСІ БАГАТЫРЫ, ДОБРЫЯ МАЛОЙЦЫ!

Была пятніца, 13-га. Зусім выпадкова, менавіта на гэты дзень, дакладней на гэты вечар, я дамовілася з намеснікам начальніка выцвярэзніка Першамайскага раёна г. Мінска Рыгорам Занько наведаць гэтую шаноўную ўстанову. (Дарэчы, усяго ў Мінску тры выцвярэзнікі, акрамя Першамайскага яны ёсць яшчэ ў Маскоўскім і Заводскім раёнах.) Кантынгент сюды паступае штодня, пачынаючы з чатырох гадзін дня і недзе амаль да поўначы.

— Дзе тут Мяржынскага, 5а? — спыталася я ў бабулек, якія стаялі на заснежанай вуліцы.

— Чаго вы крычыце так гучна, падыдзіце бліжэй, — сказала адна з іх. — Выцвярэзнік шукаеце? Хадзем, я пакажу. Што, хлопцаў выручаеце?

— Так, — схлусіла я.

— Правільна. Выручайце! — Дыхнула яна мне ў твар «водарам», які нельга зблытаць ні з чым.

І вось непрыкметны двухпавярховы домік сярод вуліцы. Адчыняю дзверы. Прама на падлозе, недалёка ад парога, амаль без памяці вылажыўся нейкі мужык. З далёкага канца калідора разам з грукатам у дзверы даносяцца крыкі: «Адпусціце старога і хворага дзеда!» Адзін з патрульнага экіпажа, Мікалай Дашкевіч, які прывёз заблукаўшага, заспакойвае яго: «Ну чаго хуліганіш, паспіш ноч з «клёвымі пацанамі». На што чуецца ў адказ: «Я пераб'ю ўсіх гэтых...» Ну што тут скажаш, узаемная павага, адным словам.

Я тым часам села ў міліцэйскі «УАЗік», які збіраўся выязджаць у патрульны рэйс, каб на свае вочы пабачыць, што творыцца ў нашым горадзе.

Першая наша паездка працягвалася ад вуліцы Мяржынскага па праспекце Скарыны ва Уручча. Доўгі час мы ехалі не спыняючыся, і я запытала у міліцыянера Сяргея Алісіёнка, які сядзеў побач са мною, ці бывае так, што вяртаецца без кліентаў. «Не, не бывае. За ўсе два гады маёй працы тут парожнікам мы не вярталіся».

Тут нарэшце мы спыніліся ля паста ДАІ, каб забраць першага кліента. Ісці самастойна ён не мог, таму двое міліцыянераў вялі яго пад рукі. Усадзілі ў машыну. Ягоны пакет з рэчамі адставілі крыху ўбок: «Каб не ўдарыў часам па галаве». Пытаю: «А што, і такое бывае?» — «Здараецца рознае, — кажа Сяргей Алісіёнак. — Быў аднойчы выпадак, калі на вадзіцеля накінулі шалік і пачалі душыць».

Па дарозе знайшлі яшчэ двух выпівак, якія таксама не стаялі на нагах. Адзін з іх, праўда, спрабаваў жартаваць: «А што, дыхаць можна?» — «Мужык, як сабе хочаш», — адказваюць яны.

Пакуль вярталіся на Мяржынскага, па рацыі перадалі: «На вуліцы Шырокай падлеткі п'юць гарэлку і моцна шумяць», «Скандаліць п'яны муж...» «А месца прызначэння дабраліся без прыгод. Мужыкоў выводзілі з машыны пад рукі і ўсаджвалі ў адным з пакояў на драўляную лаўку, і па чарзе запускалі іх да памочніка дзяжурнага Паўла Салаўя. Першым кліентам аказаўся нідзе не працуючы мінчанін С., 1958 года нараджэння, у недалёкім мінулым — шэф адной з вядомых камерцыйных фірмаў.

Другі таксама нідзе не працуе, але, па яго словах, «дапамагае» сваёй маці, якая гарэлкай шчыра «аддзячвае» свайму сыночку. «Колькі выпіў?» — спытала яго дзяжурны ўрач Зінаіда Бакоўская. — «150 грамаў». — «А закусваў чым?» — «Агурочкам салёненькім». — «Рукавом ён закусваў, а не агурочкам!» — сказаў дзяжурны па палатах М. Арлоўскі.

На «гасцей» складаюць пратаколы ў двух экземплярах — адміністрацыйнае правапарушэнне. Потым з іх здымаюць усю вопратку і ўсе рэчы, якія ёсць пры сабе (гадзіннікі, ланцужкі, грошы з кішэняў). Вопіс складваецца на адваротным баку пратакола. Да кожнага з іх падыходзіць урач Зінаіда Бакоўская (яна, дарэчы, працуе тут з дня адкрыцця выцвярэзніка, больш як 20 гадоў):

— Як вы сябе адчуваеце? Ці ёсць скаргі? Чым закусвалі? Чым хварэеце? Ці робяць вам уколы?

Потым кліенты ў суправаджэнні дзяжурнага накіроўваюцца ў палату, дзе кожнаму дастаецца кушэтка з чыстай бялізнай і коўдрай. Усяго ў гэтым выцвярэзніку 25 месцаў, сярод якіх тры жаночыя. Па словах Р. Занько, жанчыны таксама дастаўляюцца сюды даволі «цёпленькімі». І самага рознага ўзросту.

Другім рэйсам у выцвярэзнік было дастаўлена яшчэ трое нецвярозых грамадзян. У машыне кожны з іх «раскрываў» сваю душу: «У мяне брат — мэр горада, заўтра вас усіх тут да сценкі прыпрудуць!» — крычаў нейкі пабіты дзед гадоў шасцідзесяці. Другі прадставіўся ліфцёрам і ўсю дарогу расказваў пра нейкія кнопачкі, «рэверсы», «стопы». Было б вельмі весела, калі б не было так сумна. Я запыталася ў Сяргея Алісіёнка, ці не абрыдла яму ўсё гэта бачыць кожны дзень. На што ён мне адказаў:

— Затое ў цырк хадзіць не трэба...

Зноў тая ж карціна: «гасцей» правераць, агледзеці, складуць пратакол, у што апранутыя, што пры сабе маюць. У аднаго аказалася 670 «зялёных». Грошы і рэчы складваюцца ў асобную шафку і будуць выдадзены раніцай пры выпісцы.

Бываюць у выцвярэзніку і буйныя наведвальнікі, ад якіх можна ўсякага чакаць. Гэтых людзей прывязваюць да ложка — робяць фіксацыю рук і ног.



П'ём, браткі... Фота IREX/ProMedia.

Праўда, у гэтую пятнічную ноч сярод кліентаў не аказалася ніводнай жанчыны — тры месцы так і засталіся вакантнымі. Можа гэта і да лепшага.

Па словах старшага камандзіра аддзялення Сяргея Бабкова, Першамайскі выцвярэзнік — самы танны «гатэль» Мінска: нумар каштуе ўсяго 550 тысяч беларускіх рублёў. Шкада толькі, што не падаюць тут у ложак кавы.

У 22 гадзіны вечара ў нумары даставілі двух студэнтаў адной з вышэйшых навучальных устаноў горада. Неўзабаве па аднаго з гэтых малодых людзей прыехалі бацькі, якія і забралі свайго сыночка, ледзь дабудзіўшыся яго ў палаце.

Адным з апошніх у прыёмны пакой даставілі маладога банкіра, які адразу ж, як у тым анекдоце пра «новага рускага», пачаў «раскідваць» свае пальцы. Было, праўда, з-за чаго: залаты ланцужок, доўгае скуранае паліто, але ўсё гэта давялося зняць і адправіцца ў палату, як і ўсе простыя, у чым маці нарадзіла.

Увогуле раніцай пры выпісцы многія з гасцяваўшых тут нават дзякуюць за паслугу. Трэба сказаць, што толькі за кастрычнік у Першамайскім выцвярэзніку пабывала 613 чалавек, сярод іх 582 мужчыны і 31 жанчына. А за дзесяць месяцаў гэтага года тут пераначавала больш як 5 тысяч 500 выпівакаў, з якіх 179 жанчын.

Пры выпісцы аматарам саракаградуснага напою зачытваюць пратакол, выдаюць рэчы, бяруць плату, — і ўсё, цяпер разбірайся з жонкай.

**Вольга РАМАНЮК.**

**Спецыяльна для аматараў пагрэцца спіртным прыводзім табліцу, у якой указваецца, праз колькі часу алкаголь выходзіць з арганізма.**

| Від напою | Грамы | Праз колькі выходзіць |
|---|---|---|
| Гарэлка | 100 | 3,5 гадзіны |
| | 200 | 7 гадзін |
| | 500 | 18 гадзін |
| Каньяк | 100 | 4 гадзіны |
| | 500 | 20 гадзін |
| Партвейн | 200 | 3 гадзіны |
| | 500 | 6 гадзін |
| Шампанскае | 100 | 1 гадзіна |
| | 500 | 6 гадзін |
| Піва(6-прац.) | 500 | 1 гадзіна |

ПІСЬМО Ў РЭДАКЦЫЮ

## АДГУКНІЦЕСЯ, РОДНЫЯ ЛЮДЗІ!

Паважаная рэдакцыя, не ведаю, ці зможаце вы мне дапамагчы, але вельмі на гэта спадзяюся. Усё жыццё я пражыла ў Расіі і Казахстане, але нарадзілася ў Беларусі, Цыпляк жа як і мая маці. Бабуля з дзедам выехалі з Беларусі, калі маме было 4 ці 5 гадоў. А зараз лёс мяне зноў закінуў на гістарычную радзіму, у Капыль. Хацелася б хоць пад старасць знайсці сваякоў у Беларусі. Дзеда майго звалі Цыпляк Фёдар Фёдаравіч, бабулю — Марфа Ігнатаўна Батура. Іхняя дачка, мая маці, — Цыпляк Вольга Фёдараўна. Ведаю я пра сваіх родных зусім няшмат. Дзед быў адзін сын у бацькоў, а бабуля — з вялікай сям'і. Можа і сёння жывуць дзе-небудзь унукі яе братоў і сясцёр? Ведаю, як іх звалі: Міхалюк, Іван, Апанас, Алена, Юстыня, Настасся. Маці бабулі звалі Альжбета.

На жаль, я не ведаю, дзе дакладна нарадзіліся дзед з бабуляй. Памятаю толькі з іх расказаў назвы вёсак: Брод, Валокі, Цёкля...

Разумею, звестак вельмі мала, каб спадзявацца на станоўчы вынік пошукаў. Але можа ўсёткі хтосьці са сваякоў прачытае гэты ліст. Вельмі хочацца знайсці родную душу на роднай зямлі.

**Валянціна Якаўлеўна МУРЗІНА, Капыль.**

*(Дакладны адрас і тэлефон аўтаркі ў рэдакцыі.)*



## ЗНІЧКІ Ў НАЧНЫМ НЕБЕ

**У НОЧ з 17 на 18 лістапада наша планета перасячэ арбіту каметы Тэмпеля-Тутля. Гэта падзея адметная тым, што ў начным небе, калі, канешне, будзе спрыяць надвор'е, можна будзе назіраць сапраўдны зарапад.**

У свой час «Звязда» ўжо пісала падрабязна пра метэарыты — цвёрдыя целы, што падаюць на Зямлю з міжпланетнай прасторы. Пры ўзаемных сутыкненнях астэроідаў утвараюцца цвёрдыя абломкі, метэорныя целы, якія трапляюць у зямную атмасферу пры сустрэчах з нашай планетай і называюцца метэорамі. Беларуская народная назва метэораў — знічкі. Метэорныя целы ўваходзяць у атмасферу Зямлі са скорасцю ад 11 да 73 кіламетраў у секунду. Пры ўзаемадзеянні з паветрам частка кінетычнай энергіі пераходзіць у светлавую.

Даўжыня шляху метэораў у атмасферы— дзесяткі кіламетраў, вышыня — звычайна 120—150 кіламетраў. Метэоры назіраюцца візуальна, іх можна, напрыклад, сфатаграфаваць. На ясным начным небе можна бачыць звычайна каля 10 метэораў за гадзіну. А, напрыклад, у 1966 годзе з сузор'я Льва (адсюль метэоры называюць яшчэ «леанідамі») за гадзіну высыпалася каля 40 тысяч маленькіх зорачак! Не ў такіх маштабах, але падобныя з'явы мы можам назіраць штогод.

У міжпланетнай прасторы метэорныя целы рухаюцца раямі, расцягнутымі ўздоўж арбіты каметы. Трапляючы ў зямную атмасферу, яны ўтвараюць метэорныя патокі.

Маса ж метэарытаў вагаецца ад долькаў грама да дзесяткаў тон. Самы буйны з метэарытаў — Гоба (Афрыка) каля 60 тон. У былым СССР найбольш былі вядомы Тунгускі і Сіхатэ-Алінські метэарыты. Усяго існуе тры класы гэтых цвёрдых целаў: жалезны, жалезакаменны і каменны. Прадстаўнікі ўсіх гэтых класаў знойдзены на тэрыторыі Беларусі. Агульны ўклад нашай краіны ў сусветную калекцыю складае пяць экземпляраў. Падзенне трох метэарытаў: 1858 год — вёска Жмені (цяперашні Столінскі раён), 1893 год — вёска Забродддзе (Стаўбцоўскі раён) і 1965 год — вёска Чорны Бор (Быхаўскі раён) — людзі назіралі. Бытавала перакананне, што да зорак, якія прanoсяцца ў небе, трэба ставіцца з павагай, нельга смяяцца, інакш яны спаляць будынак з усімі пажыткамі. Лепш загадваць жаданні!

**На здымку:** *фрагмент жалезакаменнага метэарыту Брагін. Пры падзенні ўзарваўся і рассыпаўся на вялікай плошчы. Масы ўжо сабраных кавалкаў складае каля 900 кілаграмаў, а ўсяго ён важыў, як мяркуюць вучоныя, каля тоны.*

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## СКАРБЫ ТРЭБА ВЯРТАЦЬ

НЕ ТАК ДАЎНО ў рукі трапіла кніга «Нацысцкае золата з Беларусі» (складальнікі Уладзімір Адамушка, Галіна Кнацько, Наталля Рэдказубава). Чаму менавіта «трапіла», а не была набыта ў магазіне ці ўзята ў бібліятэцы? Справа ў тым, што выданне гэта — не проста рэдкае, а вельмі рэдкае, бо твор выйшаў тыражом усяго ў некалькі соцень экземпляраў, што для рэспублікі — кропля ў моры. Асабліва калі ўлічыць змест аповяду, рэдкіх дакументаў, змешчаных там. Большасць з іх наогул друкуюцца ўпершыню. А праблема, узнятая ў гэтай кнізе, не проста цікавая, але яшчэ і важная для краіны, грамадства.

Недзе год таму ў Лондане адбылася міжнародная канферэнцыя па пытаннях золата, якое ў часы другой сусветнай вайны было захоплена нацыстамі ў насельніцтва акупіраваных краін. Як падлічылі эксперты, кошт нарабаванага перавышае 2,2 мільярда долараў. Прычым усё гэта здабыта злачынным шляхам. Санкцыяніраваная фашысцкімі бонзамі, у тым ліку і самім Гітлерам, цэлая праграма рабавання насельніцтва акупіраваных тэрыторый выконвалася ў адпаведнасці з інструкцыямі. Прычым усё канфіскаванае, а дакладней нарабаванае, у насельніцтва золата скрупулёзна ўлічвалася, уносілася ў спецыяльныя рэестры і адпраўлялася ў сталіцу рэйха. Ужо да 31 студзеня 1942 года ў германскую крэдытную касу ў Мінску паступіла 7.300.000 нямецкіх марак наяўнай валюты і 30.000 дойчмарак золатам...

З асаблівай жорсткасцю фашысты адносіліся да яўрэяў. Усё яўрэйскае насельніцтва было сагнана за калючы дрот — у гета. Пачалося непрыкрытае рабаванне маёмасці.

Сапраўдны пагром фашысты ўчынілі ўжо ў жніўні 1941 года. Напярэдадні яны запатрабавалі ад яўрэйскага насельніцтва сабраць і здаць 50 кілаграмаў золата і серабра. Гэта патрабаванне было выканана датэрмінова. Затым паборы працягваліся. Аналагічныя акцыі праходзілі і ў іншых гарадах рэспублікі.

Так, адразу пасля акупацыі Ружан фашысты прыступілі да канфіскацыі каштоўных рэчаў сярод яўрэяў. Ужо ў першыя дні было сабрана каля дваццаці кілаграмаў срэбра. Апрача таго, акупанты налажылі кантрыбуцыю: запатрабавалі сабраць 2 мільёны рублёў і 10 кілаграмаў золата. Сродкі знайшлі. Але і гэтага галаварэзам падалося мала: яны вырашылі сабраць з кожнага чалавека, пачынаючы з 15-гадовага ўзросту, яшчэ па 100 рублёў. А такіх пасельшчаў было сотні.

Рабаванне насельніцтва працягвалася аж да поўнага выгнання нацыстаў з тэрыторыі Беларусі. Вядома, усё нарабаванае і вывезенае ў Германію цяжка нават падлічыць. Хаця частка дакументаў усё ж захавалася. А ўвогуле, згодна з данымі спецыяльнай дзяржаўнай камісіі, агульныя страты, што панесла Беларусь у гады акупацыі, склалі 75 мільярдаў рублёў (у цэнах 1941 года). У тым ліку доля страт асабістай маёмасці грамадзян — прыкладна 23 мільярды 600 мільёнаў рублёў.

І гэта толькі прамыя страты, што зафіксаваны адпаведнымі дакументамі. Але ж колькі дабра не трапіла ў рэестры, а проста ўкрадзена і вывезена ў Германію? Ну як ацаніць нейкія старажытныя кнігі, каштоўныя іконы, хатнюю маёмасць? Усяго не злічыць. І што цяпер? Пакінуць усё на волю лёсу? Пагадзіцца з тым, што скарбы загінулі і ўжо навекі страчаны для нашага народа? Не. Згодна з міжнароднымі правіламі, усё нарабаванае павінна быць вернута законным уладарам, у тым ліку і нарабаванае ў дзяржавы.

Здаецца, усё зразумела. Ёсць жа міжнародныя канвенцыі, ЮНЕСКО, іншыя арганізацыі, куды можна звяртацца па дапамогу. Толькі каму звяртацца? У Расіі, той жа Украіне, не кажучы ўжо пра прыбалтыйскія краіны, пры ўрадах створаны спецыяльныя камісіі, якія і займаюцца вяртаннем на радзіму ўкрадзеных ці проста згубленых каштоўнасцяў. Ужо былі прэцэдэнты, калі Расія дамагалася свайго мэты, вяртала назад украдзенае. У нас жа нават такой камісіі няма. Як няма і ўрадавага органа, які ўзначаліў бы ўсю справу па вяртанню скарбаў на радзіму.

Колькі ў свой час было вывезена з Беларусі ў суседнюю Расію розных каштоўнасцяў? Пасля Айчыннай вайны 1812 года нямала царскіх абозаў, паўнютых рознага дабра, было вывезена толькі з Нясвіжа. Многае з каштоўнасцяў цяпер у экспазіцыях расійскіх музеяў, у запасніках. Узяць той жа Крыж Ефрасінні Полацкай. Ужо многія айчынныя гісторыкі, даследчыкі, спецыялісты ў галіне мастацтвазнаўства схіляюцца да таго, што след рэліквіі вядзе на Усход. Але зноў жа, каму займацца гэтымі пошукамі?

Пытанне арганізацыі пошукаў і вяртання на радзіму каштоўнасцяў, якія па праву належаць нашай рэспубліцы, не аднойчы ўзнімалася ў прэсе, у тым ліку і на старонках «Звязды». І ўсё ж, што робіцца каб гэту справу паставіць на дзяржаўную аснову? З гэтым пытаннем мы звярнуліся да старшыні Камісіі па міжнародных пытаннях і бяспецы Савета Рэспублікі Мікалая Чаргінца.

— Сапраўды, многія суайчыннікі заклапочаны пытаннем вяртання каштоўнасцяў, якія па нейкіх прычынах аказаліся за мяжой, — зазначае Мікалай Іванавіч. — У гэтым кантэксце карысную справу зрабілі і аўтары ўжо вышэйзгаданай кнігі «Нацысцкае золата з Беларусі». Наша камісія ўважліва вывучае гэтую праблему. Бясспрэчна, усё тое, што нарабавалі фашысты ў гады Вялікай Айчыннай вайны і што цяпер знаходзіцца на тэрыторыі Германіі ці ў іншых месцах, павінна быць вернута беларускаму народу. Тое ж самае датычыцца і іншых скарбаў, рэліквій, якія беспадстаўна былі вывезены з рэспублікі. І тут існуюць два аспекты. Найперш усё гэта трэба паставіць на законную аснову: распрацаваць і прыняць адпаведны закон. Па-другое, стварыць дзяржаўны орган, які б займаўся гэтай справай. Словам, трэба мець нешта накшталт камісіі ў рамках Савета Міністраў па пошуку і вяртанню нашых нацыянальных рэліквій.

**Уладзімір ГОЙТАН.**

## 36,6

### ПАЗБАЎЛЕННЕ АД ГІПЕРТАНІІ

**Гіпертанічную хваробу з павышаным артэрыяльным ціскам адносяць да хвароб веку.**

Апошнім часам у Міжрэгіянальным інстытуце натурапатыі (натуральных метадаў аздараўлення) была апрабавана вялікая колькасць даступных і эфектыўных сродкаў хатняга лячэння пачатковых стадый гіпертаніі. У найбольш эфектыўныя перш за ўсё ўвайшлі: ***самарэгуляцыя, псіхагігіена, самаўнушэнне, аўтагенная трэніроўка і галоўнае — выхаванне ў сабе добразычлівасці, адходлівасці, цярпімасці, аптымізму, любові да прыроды — усяго таго, што дазваляе пазбегнуць неўрозаў.*** Вельмі вялікае значэнне мець лячэбная фізкультура, якая ўключае самамасаж, рытма-пластычная гімнастыка, лыжныя і веларагулкі, блізкі турызм, няцяжкая праца ў садзе і на агародзе, плаванне і да т. п. Карысная цікавая, творчая праца, якая прыносіць маральнае і эстэтычнае задавальненне. Дома — гэта мастацкія вырабы: вышыванне, вязанне, разьба па дрэву, маляванне і да т. п., — праца, дзе рукі злучыліся б з галавой і сэрцам. Але калі ў вас спадчынная гіпертанія, то вам і вашым дзецям варта пазбягаць нервовай работы, звязанай з частымі стрэсамі, начной пільнасцю, камандзіроўкамі. Трэба старацца ісці на творчую работу, звязаную з ручной працай, прыродай, стварэннем дабра.

***Стрэсы ўздзейнічаюць на нас не самі па сабе, а тым, як мы на іх рэагуем.*** Тут лепш адваротнае — гумар і цярпімасць. Яшчэ лепш, калі мы будзем пазбягаць непрыемных, азлобленых, помслівых людзей і канфліктных сітуацый. Пастаянная добразычлівая ўсмешка — таксама адзін са сродкаў нейтралізацыі стрэсавых сітуацый.

***Рацыянальная дыета*** таксама ўваходзіць у «залатую» тройку сродкаў супраць гіпертаніі. Тут галоўнае — раслінная ежа з мінімумам вострых, смажаных страў, асабліва мясных. Іх трэба па магчымасці замяняць рыбнымі. А вось раслінных прадуктаў трэба ўжываць не менш як 600—800 г у суткі. Асабліва карысныя морква, капуста, пятрушка, кавуны, дыні, гарбузы, буракі і, вядома ж, часнок і ягады. Тут першае месца трэба аддаць ягадам крыважа-чырвонага глогу (баярышніка), чарнаплоднай рабіне. А кветкі глогу разам з баркуном (доннікам) жоўтым, мятай перачнай і лімоннай, мацярдушкай (душыцай), чаборам (усяго па каліву) карысныя ў чаі. Пры павышэнні ціску прымаюць настой кветак або раздробленых ягад глогу, чарнаплоднай рабіны, лісце сардэчнікі (пустырніка), сушаніцы балотнай, баркуну жоўтага, а ў адвары яшчэ і карані валяр'яну. Не пашкодзіць і крываўнік (тысячалістнік), які амерыканскі натурапат Рудольф Бройс лічыць галоўным сродкам ад гэтай хваробы.

***Для зняцця чарговага павышэння ціску, а яшчэ лепш для папярэджання яго пры перамене надвор'я, у чаканні стрэсу і да т. п., мы рэкамендуем*** пагладжванне далонямі лба ад пераносся да вушэй, твару ад ілба да падбародка («мыццё»), скроняў — кончыкамі сярэдняга і ўказальнага пальцаў, шыі — ад патыліцы да лапатак, перадплечча («пагон»), плечавых, прамянёвазапясцевых і каленных суставаў. Кожны прыём паўтараюць па 15 разоў, на выдыху пра сябе вымаўляюцца формулы аутатрэнінгу: «Я спакойны. Ніякіх трывог. Я зусім спакойны. Сасуды майго сэрца і мозгу расслабляюцца. Галава становіцца лёгкай. Маё сэрца б'ецца роўна і спакойна. Мае сасуды расслабіліся. Галава стала лёгкай. З'явілася адчуванне цяпла ў сэрцы».

Для прафілактыкі павышэння крывянога ціску і зняцця сасудзістых спазмаў эфектыўная яшчэ рытмапластычная гімнастыка — плаўныя махавыя практыкаванні накшталт вярчэння сагнутымі ў плечавых суставах і ў локцях рукамі наперад і назад, пачарговых махаў прамымі рукамі наперад і назад, згінаючы і разгінаючы нагу ў калене процілеглай нагі, махі перад сабой прамымі рукамі, злёгку сагнуўшыся наперад і праводзячы паўпрысяданні, «касьба», якую лепш праводзіць з палкай, і іншыя практыкаванні.

**Валянцін СЯРГЕЕЎ,**
**прэзідэнт Міжрэгіянальнага інстытута натурапатыі.**

*«Аиф — Здоровье».*

МОДА

## ФУТРАВЫ АЖЫЯТАЖ

**Праўду сказаць, у модзе футра шыншылы, ці мангольскага ягняці. А яшчэ норкі і собаля. Зрэшты, трэба прызнаць, што моднае гэтай зімой любое футра. Натуральнае ці штучнае — якая розніца? Абы было прыгожа, цёпла і ўтульна.**

Забіць гэтых трох зайцоў можна, набыўшы футра ледзь не да пят, сшытае са шкурак некалькіх дзесяткаў звяркоў. Найбольш папулярны фасон футра ў гэтым сезоне з вялікім адкладным каўняром і з доўгім поясам, што перахоплівае талію. Такі зімовы «халацік» звычайна зашпіляецца на адзін рад гузікаў і часта ўпрыгожваецца накладнымі кішэнямі. Той жа фасон маюць і кажухі, толькі сёлета найвышэйшым шыкам лічыцца аздоба каўняра, манжэтаў і пояса каракулем. Край борта, манжэты, кішэні, ніз часта апрацаваны тасьмой ці палоскамі скуры і ў кажухах, і ў паліто. Апошнія вельмі выйграюць за кошт дабротнай тканіны і аздобы футрам з доўгім ворсам.



Курткі не ўступаюць па аздобе сваім галоўным канкурэнтам. Яны таксама вабяць вока палоскамі і крапінкамі, пафарбаваным футрам і вензелямі ўзораў. Апошнія ўтвараюцца пасля добрай работы над футрам нажніцамі. Часам дызайнеры так захапляюцца гэтым заняткам, што выстрыгаюць усю паверхню. Гэтую «памылку» іншы раз спрабуюць выправіць, аздабляючы доўгім ворсам з казінага ці якога іншага футра. Найчасцей практыкуецца стрыжка футра норкі.

Увогуле, эксперыменты гэтым не заканчваюцца. З футра шыюць зусім нечаканыя рэчы і чапляюць у выглядзе дэталяў туды, дзе іх ніколі раней не прымацоўвалі. Але прадстаўніцы чароўнай палавіны хутка падхопліваюць нестандартныя ідэі і ўжо прыладжваюць на каўнер вадалазкі футра ў тон (добра падыходзіць пераробаванае пясец са старога паліто), або «памылкова» аздабляюць ніз штаноў футрам норкі. Адна вырашае, што шаўковы жакет ніяк не можа абысціся без пухнатага каўняра, другая, выбіраючы паміж банальнай муфтай і вялізнымі, ледзь не да локця (гэта праўда!), футравымі рукавіцамі, спыняецца на апошніх. Ідуць і яшчэ далей. Шыюць не толькі кароценькія курткі з расшыранымі данізу рукавамі, але і жакеты да спадніцы ці штаноў, і нават... майкі.

У зімовай вопратцы этнаграфічная тэма мае магчымасць праявіцца на ўсю моц. Сёлета яна стала аб'ектам ажыятажу. Шыкоўныя футры і чорныя скураныя паліто бляхнуць побач з агрэсіяй яркіх фарбаў і вышывак паліто, жакетаў у фалькорным стылі. Гэтыя строі ўвабралі ў сябе ўсё самае лепшае з касцюмаў розных краін і народаў. Нарвежскія ўзоры пануюць на вязаных рэчах, няхай сабе гэта шапка ці доўгі шырокі шалік, шарсцяная сукенка ці камбінезон з тоўстых нітак.

Дарэчы, абутак папулярны таксама нацыянальны. Унты — а чаму б і не? Хаця, напэўна, найбольшай папулярнасцю будуць карыстацца батфорты.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**



**Алесь Бадак (найперш вядомы аўтарствам папулярных эстрадных песень) — празаік у паэзіі і паэт у прозе. У адным з яго ранніх вершаў ёсць такія радкі:**

*Расстралялі паэта*
*І цела вярнулі зямлі.*
*І на неба душу адпусцілі паспешна.*
*Але ўгору ўзляцеў адно пылу закружаны клін,*
*А душа засталася*
*У вершах...*



**Андрэй ФЕДАРЭНКА**



НА КОНКУРС «ЗВЯЗДЫ» І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ

**Алесь БАДАК**

# КОСЦІК

ПАЛОВА ЖЫХАРОЎ нашай вёскі насіла мянушкі, а другую палову ўсё жыццё, каго за вочы, а каго ў вочы, клікалі па-дзіцячы — Паўлінка, Мар'ечка, Віцік, Жэнік...

Мой сусед да самай старасці хадзіў Косцікам. Праўда, колькі яго помню, ён для мяне заўсёды быў стары, а сам я побач з ім у сваіх успамінах уяўляю сябе малым дзіцем, хоць перад яго смерцю ўжо заканчваў школу.

Знешне ён, і праўда, намнога перагнаў свае гады, хоць яго твар, цёмны, амаль па самыя вочы зарослы густым рыжым шчаціннем, мне зараз вельмі цяжка ўзгадаць. Затое засталіся ў памяці яго вочы — чорныя, бліскучыя, пранізлівыя і ў той жа час пустыя. Яны глядзелі навокал так, быццам бачылі гэты свет упершыню і нічога ў ім не разумелі.

Па яго вачах няцяжка было здагадацца, што Косцік хворы. І калі хто пытаўся, на вёсцы пра яго гаварылі проста, без жалю, але і без насмешкі, нібы чалавек схапіў звычайную прастуду:

— Дурны.

І зімою і летам Косцік, высачэзны, пад два метры ростам, хадзіў у старой зашмальцаванай куфайцы і такіх жа ватовых штанах. Засталося ў памяці, як аднойчы ён, павагаўшыся на нашым зэдліку некалькі хвілін, пакінуў пасля сябе на ім тлустую чорную месціну.

Заходзячы да каго ў хату, Косцік ніколі не затрымліваўся доўга і рэдка з кім гаварыў — зойдзе, пасядзіць, цяжка паўздыхае, зыркаючы па кутках цікаўнымі вачыма, і моўчкі падасца на вуліцу. Да яго хаджэння прывыклі, хто спрабаваў загаварыць з ім, а хто рабіў выгляд, быццам і не заўважае яго.

У вёсцы Косціка не сказаць каб вельмі баяліся, але часта ім страшылі малых дзяцей:

— Вот прыйдзе Косцік і забяре цябе!

Тых, хто быў большы і разумнейшы, папярэджвалі, каб барані Божа не дражніліся з ім, бо ці мала што стукне ў галаву дурному чалавеку.

Час ад часу ў Косціка і праўда, здараліся прыпадкі, ён пачынаў бегаць па вёсцы і гаварыць, што бачыў у сябе на агародзе амерыканскіх шпіёнаў, або прасіў-патрабаваў грошай на білет, каб паехаць у Маскву да Брэжнева. Пра амерыканскіх шпіёнаў і Брэжнева Косцік ведаў з радыё, якое з ранку да поўначы трашчала на падаконніку ў яго маленечкай хатцы. Хто-небудзь з вяскоўцаў выклікаў «хуткую», і Косціка забіралі ў бальніцу.

Праходзіў час, і Косцік вяртаўся — ціхі, апусцелы, абыякавы да ўсяго, без бляску ў вачах. На некалькі дзён ён зачыняўся ў сваёй хатцы. Я часта бачыў яго ля акна — ён гадзінамі сядзеў там і глядзеў на вуліцу патухлымі вачыма. У гэтыя дні (ды, прызнацца, і ў астатнія таксама, хіба можа не так моцна) я баяўся поначы адзін ісці на агарод — нашы з ім агароды былі побач. Мне здавалася, што зараз адкуль-небудзь выскачыць Косцік і закрычыць:

— А, папаўся, амерыканскі шпіён!

Я баяўся Косціка і не любіў яго — не за тое, што ён быў страшны ці дурны, а за тое, што ён быў нашым суседам.

Але яшчэ адна наша суседка з дзіўнай і незразумелай мне мянушкай Шарагоўка не любіла і баялася Косціка, здаецца, больш за мяне. Яна рана аўдавела, рана выдала замуж, як згубіла, дачку, якая паехала да мужа ў Віцебск і аб'яўлялася ў маці два разы на год: першы раз, каб пакінуць ёй на лета ўнучку, другі раз — каб забраць.

У свае пяцьдзесят з лішкам Шарагоўка баялася мужчын больш, чым іншыя ў семнаццаць. Яна часта прыходзіла да нас і жалілася маёй маці:

— Зноў да мяне Косцік прыцягнуўся быў сёння. Гэта ж панадзіўся, і не выганіш.

— Ну і хай ходзіць, што табе? Ён да ўсіх ходзіць,— паціскаючы плячыма, казала маці як пра нешта непазбежнае — дождж ці снег.

— Ага, — уздыхнула Шарагоўка, і ўжо цішэй, нібы пра нешта вельмі таямнічае, гаварыла: — Я ж адна! Яшчэ возьме ссільнічае, што ты думаеш!

Пасля дадавала:

— Зноў міску супу з'еў.

— Дык дзіва што ён да цябе будзе хадзіць, калі ты яго корміш.

— А як жа я яго не пакармлю? — здзіўлялася Шарагоўка. — Я ж бачу, галодны, адно сліны глытае — мне яшчэ страшней робіцца.

Аднаго разу Шарагоўчына дачка, прыехаўшы па восень па малую, прывязла маці стары тэлевізар.

У саміх у нас грошай на тэлевізар не было, дарыць яго нам таксама не было каму, і я зачасціў да Шарагоўкі. А каб не дакучаць суседцы сваімі візітамі, я час ад часу ішоў на хітрасць: вечарам, калі пара было класціся, выключаў тэлевізар і, каб не бачыла гаспадыня, неўпрыкмет круціў у ім якую-небудзь ручку. Назаўтра суседка прыбягала да нас і прасіла:

— Сашка, паглядзі цілівізар. Нешта экран скача, а зараз кіно пачнецца.

Я ішоў да Шарагоўкі, «рамантаваў» тэлевізар і заставаўся ў яе глядзець кіно.

Але не толькі я ўпадабаў бясплатныя фільмы ці канцэрты. Неяк падвечар я зайшоў да Шарагоўкі і ўбачыў там Косціка. Цяжка дыхаючы, ён не зводзіў вачэй з экрана, і ў гэты момант для яго на свеце больш нічога не існавала. Я адчуў сябе жабраком, у якога адабралі апошні рубель.

Праз некалькі дзён Шарагоўка ўвалілася да нас у хату і ледзь не з парога выплюхнула сваё гора:

— І на чорта яны прывезлі мне гэты цілівізар? Напішу, каб забіралі назад.

— Зламаўся? — не зразумела маці.

— Дык хай бы ўжо лепш зламаўся! А то ж ідзе! А гэты чорт праз яго не вылазіць з хаты!

Я ледзь не прагаварыўся, што ведаю, як «зламаць» тэлевізар, але ў апошні момант апамятаўся — тады ж суседка здагадаецца, чаму ён у яе раней так часта псаваўся. А Шарагоўка ўсё гразілася напісаць у Віцебск, маці спачувальна ківала галавой, але параіць нічога не магла. Ды і што тут параіш? Не выганіш жа Косціка з хаты і не загадаеш яму больш туды не прыходзіць.

Шарагоўка ўзненавідзела Косціка чорнай нянавісцю і неяк сказала маці, што хоча назусім з'ехаць да дачкі. Маці пачала адгаворваць — як можна пад старасць кідаць усё і ехаць невядома куды, дзе яе ніхто не чакае і дзе яна нікому не будзе патрэбна!

Шарагоўка быццам і згаджалася, уздыхала, ківала галавой, але праз дзень-другі зноў заспявала знаёмую песню:

— Вот і дачка ўсё піша: прыязджай, што там табе адной сядзець — цяжка, ведама. А тут у горадзе ні свіней трымаць не трэба, ні курэй, ні ў печы паліць.

Маці ў гэтыя пісьмы не верыла, але і новых аргументаў, каб пераканаць Шарагоўку «не дурэць», не знаходзіла.

Па ўсім было відаць, што суседка і сама не надта хоча зрывацца з наседжанага месца, тым больш у чужы далёкі горад, і можа б яна ўрэшце змірылася са сваёй доляй, каб не адзін выпадак.

У калгасе здох малады бычок. Паўдня ляжаў ён у кароўніку, пакуль яго спісвалі, а потым думалі-рашалі, як ад яго пазбавіцца. І тут нехта з калгасных весялуноў, сустрэўшы Косціка, сказаў нібы жартам: так і так, ляжыць у кароўніку бычок, ноччу акалеў, а забіраць ніхто не хоча. А ён жа мясісты — можна тыдзень пракарміцца.

Праз паўгадзіны Косцік, узваліўшы бычка на свае магутныя плечы, цяжка ступаючы і хістаючыся, як п'яны, вяртаўся дадому.

Шарагоўка тут жа прыбегла да нас і завохкала:

— А божачкі, няўжо ён яго есці будзе?

— А што, ты думаеш, яго да гэтага ў рэстаранах кармілі? — не то жартам, не то сур'ёзна спытаў бацька.

— Дык як.жа ён яго варыць будзе? На чым?

І праўда, ніхто не ведаў, ці ёсць у Косціка хоць які керагаз, ды і з цяжкасцю верылася, што ён сабе калі-небудзь варыў.

Шарагоўка шчэ крышку паплакалася на сваю цяжкую долю, зноў загаварыла пра тое, што трэба вось ехаць да дачкі і ніяк не рашыцца, і пайшла дадому.

А вечарам, толькі яна сабралася зачыніць нанач сенцы, як у дзвярах з'явіўся Косцік — з вялікім кавалкам бычынага мяса ў акрываўленых руках. За халявай левага бота тырчаў вялізны, таксама акрываўлены нож.

— На, звары мне, — прабубніў ён і паклаў мяса на стол. Шарагоўка пасля расказвала, што як толькі ўбачыла Косціка, ногі падкасіліся, ледзь не страціла прытомнасць, а пакуль варыла тое мяса, нічога не бачыла і не чула — і ў галаве, і ў вачах былі толькі акрываўленыя рукі Косціка і яго вялізны нож.

— І нікога ж не паклічаш, — жалілася яна, — пачуе ж і яшчэ мяне зарэжа.

Сяк-так зварыўшы мяса, Шарагоўка вывернула яго ў вялікую місу і паставіла на стол.

— Думаю, хай забірае з місай, — расказвала яна маёй маці. — Чорт з ёй, калі і не верне. А ён, Зосечка, сеў за стол і давай есці. А я ж парэзала во на такія кускі! — І яна паказала, якімі вялікімі кавалкамі парэзала. — А ён бярэ іх абедзвюма рукамі і ўсё папоўніцы, усё папоўніцы. Ну, думаю, еш, наясіся ды мо скарэй пойдзеш. А ён зірк на мяне дый кажа: «Еш і ты са мною!» Ды так Зосечка, зіркнуў і так сказаў, што ў мяне зноў ногі аднялися.

— Ела?

— Ела, Зосечка, ела здыхлянціну! Куды ж дзецца было?! А я ж яе і не вымыла добра!

Назаўтра Шарагоўка пабегла да калгаснага ветэрынара пытацца, ад чаго спруцянеў бычок.

— Гэта ты, цётка, у Косціка пытайся, а не ў мяне, — выскаліўся той.

Шарагоўка казала, што цэлы дзень не магла глядзець ні на якую яду і ўсё чакала, што памрэ.

Праз месяц яе ўсё-такі забрала да сябе дачка і больш пра сваю суседку я нічога не чуў.

Праз чатыры гады памёр Косцік.

Нехта з вяскоўцаў быццам бы наказваў пісьмом Шарагоўцы, каб вярталася, але дарэмна.

А хаты Косціка і Шарагоўкі і сёння стаяць пустыя і задумна глядзяць адна на адну маленькімі цёмнымі вокнамі.

# КРАСА І СІЛА



## АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ

## «ПРЫГОННЫ ПАЭТ»

Паўлюк Багрым з'явіўся пачынальнікам новай беларускай літаратуры XIX ст. Хіба, можа, Ян Баршчэўскі яго крыху апярэдзіў сваёй «Размовай хлопаў», якую Паўлюк ведаў на памяць. Багрымазнаўства, як і літаратура гэтага стагоддзя, — гэта люстэрка, у якое мы глядзімся і цьмяна бачым нашых папярэднікаў, а таму і сябе.

П.Багрым — самы загадкавы паэт усёй нашай паэзіі. Не адзін літаратуразнаўца намагаўся знайсці пра яго хоць якія-небудзь згадкі ў архівах Беларусі, Літвы, Польшчы, Расіі. Амаль што марна. Ён — паэт аднаго верша «Зайграй, зайграй, хлопча малы...», напісанага ў 15-гадовым узросце падчас бунту сялян мястэчка Крошын паблізу Баранавіч, у 1828 годзе супраць запрыгоньвання мясцовым панам Юрагам. Кажуць, быццам бы ў яго тады адабралі сшытак з вершамі, а самога адправілі ў рэкруты на 25 гадоў. Можа і праўда, і гэтыя вершы дагэтуль пыляцца дзе-небудзь у архівах царскай ахранкі?

Пасля 1828 года наступныя звесткі пра Паўлюка з'яўляюцца толькі ў 1864 годзе, пасля паўстання Каліноўскага, калі ён, 52-гадовы, бярэцца шлюбам з 28-гадовай удавой Карнеліяй Шышлоўскай. Дзе ён быў усе гэтыя гады — мы пакуль не ведаем. Аніхто не ведае таксама, якімі б шляхамі пайшла нашая літаратура, калі б П.Багрым пісаў, развіваў свой талент. А я перакананы ў тым, што ён пісаў, бо калі чалавеку дадзена, дык значыць — на ўсё жыццё.

Талент быў несумненны. Нездарма яшчэ Максім Гарэцкі ў сваёй першай хрэстаматыі параўноўваў П.Багрыма з Шаўчэнкам. Нездарма ж ягонымі сябрамі і гасцямі ў Крошыне былі Дамейка, Тамаш Зан ды іншыя. Талент узрос не на пустым месцы, бо традыцыі адукаванага Крошына былі даўнія. Яшчэ на пачатку XVII ст. хлопцы з мястэчка навучаліся ў Ягелонскім універсітэце.

Магчыма, «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» аўтабіяграфічна-трагічны верш, але і па тых звестках, якія мы маем, дык і сабе хочацца пажадаць такога жыцця, якое пражыў «прыгонны паэт». Дзякуючы ксяндзу Каралю Жураўскаму, які служыў у Крошынскім касцёле мы толькі ў апошнія гады даведаліся дакладную дату Багрымавага нараджэння: 2 лістапада 1812 года. Памёр жа ён, а дакладней, як сцвярджае паваенны эмігрант-літаратар Юрка Віцьбіч, у 1891 годзе, забіты раз'юшаным быком. А яшчэ «прыгонны паэт» пазычаў уладальніку Крошына Святаполку Завадскаму вельмі вялікія грошы, а яшчэ Карнелія нарадзіла Багрыму дзяцей, якія ўцяклі ад першай імперыялістычнай вайны і след іхні згубіўся можа дзе ў Расіі.

Паўлюк Багрым быў адмысловым кавалём. Жырандоля, выкаваная ім, дагэтуль упрыгожвае Крошынскі касцёл, з'яўляецца творам мастацтва еўрапейскага значэння. Пасля вайны з яе былі згубленыя пяць алавяных жаўрукоў, і я шчаслівы, што знайшоў іх на адным з гарышчаў мястэчка. Перапісваўся з цяпер ужо з нябожчыкам ксяндзом Каралем Жураўскім, ён мне даслаў шмат каштоўных матэрыялаў па гісторыі Крошына, яго людзей у мінулым.

На жаль, аніводнага партрэта альбо здымка паэта не захавалася, ёсць толькі фантазіі ягонага аблічча сучасных мастакоў. А па ўспамінах ягоных сучаснікаў Багрым быў вельмі мажным, імпазантным дзяцюком.

**Паўлюк БАГРЫМ**

### Зайграй, зайграй, хлопча малы...

*Зайграй, зайграй, хлопча малы,*
*І ў скрыпачку і ў цымбалы,*
*А я зайграю ў дуду,*
*Бо ў Крашыне жыць не буду.*
*Бо ў Крашыне пан сярдзіты,*
*Бацька кіямі забіты,*
*Маці тужыць, сястра плача:*
*«Дзе ж ты пойдзеш, небарача?»...*
*Дзе ж я пайду? Мілы Божа!*
*Пайду ў свет, у бездарожжа,*
*У ваўкалака абярнуся,*
*З шчасцем на вас азірнуся.*
*Будзь здарова, маці міла!*
*Каб ты мяне не радзіла,*
*Каб ты мяне не карміла,*
*Шчаслівўшая ты бы была!*
*Каб я каршуном радзіўся,*
*Я бы без паноў абыўся:*
*У паншчыну б не пагналі,*
*У рэкруты б не забралі*
*І ў маскалі не аддалі.*
*Мне пастушком век не быці,*
*А ў маскалях трудна жыці,*
*А я і расці баюся,*
*Дзе ж я, бедны, абярнуся?*
*Ой, кажане, кажане!*
*Чаму ж не сеў ты на мяне?*
*Каб я большы не падрос*
*Ды ад бацькавых калёс.*

**Падрыхтаваў Анатоль СЫС.**

ПОГЛЯД

# 101 ТЫСЯЧА РУБЛЁЎ СУПРАЦЬ 197 ТЫСЯЧ

## *Ценевікі валютнага рынку разам з «легаламі» падымаюць кацiроўкі*

Дарэмна, напэўна, было разлічваць, што апошняе рашэнне Нацыянальнага банка стане панацэяй ад хваробы, на якую ўжо некалькі месяцаў хварэюць камерцыйныя фінансавыя ўстановы краіны. Мы маем на ўвазе тэлеграму, што атрымалі камерцыйныя банкі, згодна з якой ім дазволена з 16 лістапада ўзняць у паўтара раза курс абмену СКВ, абапіраючыся на лічбы афіцыйныя. У выніку гэтага ўжо ў панядзелак курс продажу долара ў абменных пунктах узрос да 99 тысяч рублёў.

Што ж змянілася ў рабоце «абменнікаў»: пэўная рэакцыя насельніцтва і банкаў на новаўвядзенне, здаецца, ужо магла праявіцца. Адназначна скажам, што, акрамя росту кацiровак, нічога не адбылося. Больш таго, па-ранейшаму ніякага ажыўлення ля легальных пунктаў, дзе можна здаць або набыць валюту, не назіраецца. На праспекце Скарыны ў Мінску, уключаючы адрэзак ад Акадэміі навук да Цэнтральнага універмага, у аўторак ні адзін з пунктаў абмену валюты не працаваў. Дакладней, толькі ў адным былі выстаўлены кацiроўкі — у «абменніку» аддзялення ААБ «Беларусбанка». Астатнія закрыты як бесперспектыўныя: нават у цэнтры сталіцы кліентаў у іх няма. Аднак і ў аддзяленні Ашчадбанка ніякіх змен, акрамя як на табло: у аўторак курс складаў ужо 98 тысяч рублёў, а курс продажу трымаўся на адзнацы 101.250 рублёў за долар. На маё пытанне аб наяўнасці валюты касірка толькі неразумеюча пацiснула плячыма, маўляў, навошта пытаць аб відавочным.

У адрозненне ад сітуацыі на легальным рынку наяўнай валюты, на ценявым банкнотным рынку на беспрацоўе не скардзяцца. Там з панядзелка таксама пачаўся рост кацiровак СКВ. У аўторак з раніцы долар на ценявым рынку каштаваў ужо 197 тысяч рублёў. Прычым, па запэўніванню валютнага мяняла, з якім давялося пагутарыць, курс і надалей будзе расці, намнога апярэджваючы лічбы легальнага рынку. Для некаторых эканамістаў усё, што адбываецца з наяўнай валютай, здаецца відавочным.

— Гэта рашэнне частковае, якое нічога не мяняе, — каменціруе карэспандэнту «Звязды» апошнія падзеі на валютным рынку загадчык аддзела Інстытута эканомікі Нацыянальнай акадэміі навук Аляксандр Лучанок. — Павышэнне курса ў паўтара раза ў «абменніках» не даводзіць курс да рэальнага на «чорным рынку». Апошняе рашэнне Нацыянальнага банка трэба разглядаць як імітацыю прыняцця мераў. На самай справе гэта нічога не вырашае.

— Гэта значыць, вы лічыце, што трэба было адпусціць на волю курсаўтварэнне ў камерцыйных банках?

— У абменных пунктах трэба дазволіць свабоднае курсаўтварэнне — зыходзячы з попыту і прапанавання. Тады валюта будзе «ўцякаць» не на «чорны рынак», а дастанецца банкам. Банкі, у сваю чаргу, будуць плаціць падаткі, і гэта, пагадзіцеся, у інтарэсах дзяржавы. Сёння ж пераважная частка СКВ кружыцца ў ценявой сферы. Калі ў студзені 1997 года праз абменныя пункты скуплялася амаль 156 млн. долараў, а прадавалася 118 млн., то ў верасні гэтага года адпаведныя лічбы склалі ўсяго 18 і 7 млн. долараў. Паўтаруся: да таго часу, пакуль у абменных пунктах не будзе ўстанаўлівацца курс на падставе попыту і прапанавання, валюта будзе знаходзіцца ў ценявой эканоміцы і абагачаць рознага роду жулікаў. Замест таго, каб даставацца банкам, а праз іх уліваццa ў айчынную эканоміку.

— Аляксандр Іванавіч, а як вы можаце пракаменціраваць чарговы рост кацiровак СКВ на ценявым рынку?

— Гэта звязана з фактычным закрыццём Міжбанкаўскага валютнага рынку. Сёння адным са спосабаў, якім карыстаюцца прадпрыемствы, каб атрымаць валюту, з'яўляецца перавод безнаяўных рублёў у наяўныя і іх куплю наяўнай валюты. Паколькі гэта адзін са спосабаў набыцця валюты для гаспадарчай дзейнасці, то менавіта пагэтаму і пайшоў уверх курс наяўнага долара. Гэта значыць, што чым больш жорсткім мы робім курсаўтварэнне, тым вышэй становіцца курс СКВ. Таму адзіны спосаб абмежавання росту курса долара — гэта лібералізацыя валютнай палітыкі і прадастаўленне магчымасці курсаўтварэння на рынкавай аснове. Гэта прывядзе да зніжэння курса як наяўнага, так і безнаяўнага долара.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

**Днямі ў Мінску завяршылася выстаўка «Турцыя-98». Кожная падобная нацыянальная выстаўка акрамя ўсяго іншага з'яўляецца і слушнай інфармацыйнай падставай паразважаць аб сённяшнім стане і перспектывах супрацоўніцтва з краінай-экспанентам. У дадзеным выпадку Турцыяй, якая ў добра вядомым мінчанам павільёне кампаніі «Мінскэкспа» наладзіла другую па ліку выстаўку прамысловых тавараў.**

# ЦІ ПАТРЭБНЫ НАМ «БЕРАГ ТУРЭЦКІ»?

## Знешні гандаль паміж Беларуссю і Турцыяй значна адстае ад узроўню міждзяржаўных адносінаў

НАША супрацоўніцтва з Турцыяй за час пасля ўстанаўлення дыпламатычных адносінаў (25 сакавіка 1992 г.) развіваліся адносна стабільна і па нарастаючай. Праўда, яго крыху замарудзіла і збіла ўзяты тэмп высылка з Мінска восенню 1994 года двух турэцкіх дыпламатаў, якія былі абвінавачаны ў шпіянажы. Але ўзнікшую пасля гэтага напружанасць хутка ліквідавалі. Да нас з афіцыйным візітам прыехаў міністр замежных спраў Турцыі Э. Інёню. Візіт прайшоў паспяхова: былі падпісаны чатыры пагадненні, міністра цёпла прынялі прэзідэнт і прэм'ер-міністр.

Прыкладна праз год Турцыю наведаў Аляксандр Лукашэнка. У ходзе яго афіцыйнага візіту былі падпісаны важны дагавор аб дружбе і супрацоўніцтве і тры гандлёва-эканамічныя пагадненні. Потым гэта прававая база была дапоўнена яшчэ шэрагам дакументаў.

Яны, зразумела, станоўча паўплывалі на далейшае развіццё эканамічных стасункаў. Але істотнага прытоку турэцкіх інвестыцый, нарошчвання гандлёвага абароту паміж дзвюма краінамі, не адбылося. І, відаць па ўсім, наўрад хутка ці адбудзецца падобны прарыў. На гэту сумную думку наводзіць знаёмства і з некаторымі арганізацыйнымі момантамі падрыхтоўкі «Турцыі-98». У сваім пасланні да ўдзельнікаў прэс-канферэнцыі, прысвечанай адкрыццю выстаўкі, турэцкі пасол у Мінску Шуле Сойсал (яна не змагла прысутнічаць на прэс-канферэнцыі па прычыне візіту ў той дзень у Беларусь віцэ-прэм'ера Турцыі) адзначыла, што, нягледзячы на цудоўныя адносіны паміж краінамі, гандлёва-эканамічныя сувязі не адпавядаюць вялікім магчымасцям Турцыі і Беларусі.

Мізэрны ў параўнанні з наяўным патэнцыялам гандлёвы абарот (прыкладна 50 млн. долараў ЗША) не можа задаволіць абодва бакі. Гэта афіцыйная лічба, і яна не адлюстроўвае ўклад так званых «чаўнакоў». На мой погляд, абарот беларускіх «чаўнакоў» перавышае знешні гандаль па дзяржаўнай лініі. Бо, паводле даных турэцкага боку, летась аб'ём «чаўночнага» гандлю склаў 6-7 млрд. долараў ЗША. А гэтым бізнесам займаюцца ў пераважнай большасці прадстаўнікі краін СНД. Так што для «чаўнакоў»-беларусаў нейкія 50—60 млн. долараў, як гаворыцца, цалкам па сіле).

Турцыя сёння — адна з буйнейшых гандлёвых дзяржаў свету. Летась агульны экспарт турэцкіх вырабаў і паслуг у параўнанні з мінулым годам узрос на 13 працэнтаў і склаў 26 млрд. долараў ЗША, імпарт — 48 млрд. і ўзрос адпаведна на 11 працэнтаў. На фоне гэтых каласальных лічбаў наш мінулагодні гандлёвы абарот у 50 млн. долараў ЗША сапраўды выглядае як нязначная дробязь. Але таму і вартая ўвагі і дакладнага вывучэння. Бо за апошнія пяць гадоў наш гандлёвы абарот ніяк не набудзе належны дынамізм, і яго адрыў, калі можна так сказаць, ад узроўню міждзяржаўных адносінаў становіцца ўсё больш відавочным. Няўжо мы здольныя прадаваць у Турцыю толькі калійныя і азотныя ўгнаенні, сінтэтычныя ніткі, шыны і крыху металаапрацоўчай прадукцыі? Упэўнены, што пры разуменні і энергічным падыходзе наш экспарт можна было б значна пашырыць за кошт прымальнай па якасці і цане беларускай прадукцыі.

Каля аднаго мільёна — прыкладна столькі маладых людзей штогод пачынаюць шукаць работу. Таму беспрацоўе — адна з галоўных сацыяльных і эканамічных праблем. Вырашыць яе Турцыі будзе складана, бо гаспадарка, на погляд экспертаў, яшчэ не набрала таго патэнцыялу самастойнага развіцця, які б адпавядаў сучасным міжнародным стандартам. Як пішуць спецыялісты па эканоміцы Турцыі, высокатэхналагічныя вытворчасці тут прадстаўлены ў асноўным так званымі «адвёртачнымі» прадпрыемствамі з невысокай якасцю прадукцыі.

Вялікі ў Турцыі і аб'ём «ценявой» эканомікі. Ёсць сцвярджэнні, што ён нават роўны аб'ёму афіцыйнай эканомікі.

Нягледзячы на ўсе гэтыя праблемы і цяжкасці, турэцкія прамыслоўцы і бізнесмены валодаюць дастатковымі сродкамі для знешнеэканамічнай экспансіі. Актыўна і з поспехам (не ў прыклад беларускім) праявілі сабе за мяжой турэцкія будаўнікі. Асабліва значны свой след яны пакінулі ў краінах Сярэдняй Азіі, Расіі, няблага папрацавалі і ў Беларусі.

Турэцкі капітал настойліва ідзе і рашуча ўкараняецца там, дзе ёсць магчымасць атрымаць неблагі прыбытак. Салідныя інвестыцыі былі ўкладзены ў развітыя краіны: Германію, ЗША, Галандыю, Англію, усходнееўрапейскія краіны. Супрацоўніцтву з Заходняй Еўропай спрыяе тое, што з 1 студзеня 1996 года Турцыя, якая пакуль не прынята ў Еўрапейскі саюз, увайшла ў яго мытны саюз.

Але ўсё ж больш прывабнымі і эфектыўнымі для дзелавых людзей Турцыі з'яўляюцца інвестыцыі ў краіны СНД, асабліва ў яго Сярэднеазіяцкі рэгіён. Напрыклад, салідныя грошы ўклалі турэцкія бізнесмены ў тэкстыльную і металургічную галіны Туркменістана, Узбекістана. Папулярнасцю карыстаецца Украіна. Але чаму не Беларусь?

Адна з прычын гэтага, якая ляжыць на паверхні і якую назвала ў сваім пасланні пасол Шуле Сойсал і кіраўнік фірмы «Туркель» Корхан Ягган, — інфармацыйная. Ён шчыра сказаў: Беларусь у Турцыі, у параўнанні з Расіяй і Украінай, невядомая краіна. Пра яе трэба было шмат расказваць турэцкім бізнесменам, перш чым яны згаджаліся разглядзець прапанову ўдзельнічаць у выстаўцы ў Мінску.

Праўда, пані Сойсал адзначыла, што дзейнасць змешанага беларуска-турэцкага камітэта па эканамічнаму супрацоўніцтву праз арганізацыю выставак і семінараў у многім задавальняе інфармацыйны «голад». Але гэта, на маю думку, трэба разумець як спробу дыпламатычна завуаліраваць крытыку беларускіх устаноў і асоб, адказных за распаўсюджванне інфармацыі пра нашу краіну.

Бо калі ў 1996 г. турэцкія фірмы ў час іх нацыянальнай выстаўкі знялі больш як 1000 м² плошчы ў «Мінскэкспа», то запланаваная наступная «Турцыя-97» увогуле правалілася — не знайшлося дастатковай колькасці жадаючых. А «Турцыя-98», якая займае ўсяго 750 м², адбылася ва многім дзякуючы гераічным намаганням фірмы «Туркель» і беларускай кампаніі «Мінскэкспа».

А можа нам увогуле не патрэбны «бераг турэцкі»? Уражанне такое, што на самай справе не вельмі. Мяркую нават па тым, што на прэс-канферэнцыі з нагоды адкрыцця «Турцыі-98» не было ніводнага прадстаўніка Мінзнешэканомсувязяў, іншых міністэрстваў і ведамстваў, якія, здавалася б, павінны хаця б сваёй прысутнасцю дэманстраваць зацікаўленасць у ажыццяўленні аб'яўленага на вышэйшым узроўні галоўным усходняга вектара ў нашай экспартнай палітыцы.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## «НЯХАЙ ЖЫВЕ АДРОЗНЕННЕ»

Жанчына не можа згвалціць мужчыну. Так пастанавіў некалькі дзён назад вярхоўны французскі суд. У цэнтры гэтай справы стаяў малады чалавек, які ва ўзросце паміж 14 і 19 гадамі неаднаразова знаходзіўся ў пазашлюбнай сувязі са сваёй прыёмнай маці, якая была на 21 год старэй за яго. Згвалтаванне, якое прадугледжвае зняволенне на тэрмін да 15 гадоў, па вызначэнню суда мае на ўвазе «сексуальнае пранікненне ў іншую асобу з дапамогай насілля, прымусу, пагрозы ці нечаканасці». У разглядаемым выпадку можа ісці размова толькі пра «сексуальную агрэсію», якая караецца зняволеннем на тэрмін ад 5 да 10 гадоў.

Ужо многія дзесяцігоддзі ў Нацыянальным сходзе Францыі дэпутаты вядуць дэбаты аб раўнапраўі, указваючы на «маленькае адрозненне» паміж мужчынамі і жанчынамі. Пасля заклiку «Няхай жыве маленькае адрозненне!» палата аднойчы выбухнула апладысментамі.

Французская каралева ў XVIII стагоддзі нават мела магчымасць паказаць згвалтаванне жанчыны мужчынам — ва ўсякім разе, у галантных абставінах версальскага двара. Калі прыдворная дама паскардзілася каралеве, што яе згвалтаваў кавалер, тая ўзяла са стала выпадкова ляжаўшую там перавязь з мячом. Даўшы даме клінок, яна пачала гайдаць ножны з боку ў бок і загадала: «А цяпер засуньце меч назад!»

**«Зюддойчэ цайтунг» (ФРГ).**

*НА СВАЕ ВОЧЫ*

# ГЭТА ТАЯМНІЧАЯ КАТАЛОНІЯ...

Альберта Дамінга Фернандэс, з якім лёс звёў мяне ў Барселоне, адрэкамендаваўся як сярэдняй рукі прадпрымальнік. Паколькі цікавіцца — а тым больш у новага знаёмага — фінансавым становішчам ці штогадовымі прыбыткамі на Захадзе не прынята, прыйшлося задаволіцца агульнымі лічбамі і разважаннямі Альберта. Дзякуй Богу, чалавекам ён аказаўся цікавым і дасведчаным...

Як і паўсюдна ў Іспаніі, кожны трэці эканамічна актыўны насельнік Каталоніі заняты ў прамысловасці і будаўніцтве, і толькі кожны пяты — у сельскай гаспадарцы. Віды іх дзейнасці самыя разнастайныя: машынабудаванне і нафтаперапрацоўка, харчовая і здабыўная прамысловасць, хімічная і абутковая індустрыя, вытворчасць электраэнергіі і электронікі... Пірэнейскі паўвостраў надзвычай багаты на карысныя выкапні: ртуць і пірыты, цынк і свінец, медзь і волава, вальфрам і калійныя солі, і, вядома ж, жалезная руда: у Іспаніі яе здабываюць штогод звыш 8 мільёнаў тон. Чорная ж металургія наогул ледзь не ў рэкардсменах Еўропы: 7 мільёнамі тон чыгуну і 11 мільёнамі тон сталі наўрад ці можа пахваліцца якая-небудзь іншая дзяржава нашага кантынента.

Шырока вядомыя ў свеце (а мы, між іншым, пра гэта па сутнасці і не ведалі) і іспанскія аўтамабілі, асабліва легкавыя. Бо калі б не карысталіся яны попытам і аўтарытэтам, іх бы проста столькі не выраблялі. А так, калі ласка: адзін мільён машын, з іх да 750 тысяч легкавушак кожны год — такі стабільны паказчык машынабудаўнічай індустрыі Іспаніі, прычым большасць іх збіраюцца менавіта ў Каталоніі.

З іншых паказчыкаў індустрыяльнай Іспаніі варта, відаць, назваць наступныя: нафтавыя заводы перапрацоўваюць за год каля 75 мільёнаў тон нафты; атамныя і гідраэлектрастанцыі выпрацоўваюць да 100 мільярдаў кілават-гадзін электраэнергіі; харчовая прамысловасць пастаўляе на сусветны (так-так, менавіта на сусветны!) рынак 30 мільёнаў гекалітраў выдатнейшага вінаграднага віна і 500 тысяч тон аліўкавага алею... Дарэчы, на долю той жа Каталоніі прыпадае 28 працэнтаў плошчаў іспанскіх садоў, 10 — вінаграднікаў, 11 працэнтаў аліўкавых плантацый.

Славяцца ў свеце таксама каталонскі тэкстыль і абутак; а цэмент, выраблены ў самой Барселоне, выкарыстоўваецца зазвычай для падводных работ.

Каб усе гэтыя і шмат якія іншыя вырабы Каталоніі знаходзілі свайго пастаяннага і выгаднага пакупніка, проста выдатна пастаўлена дастаўка іх да месцаў прызначэння. І ў гэтай выключна важнай справе вядучую ролю адыгрывае славуты на ўвесь свет марскі порт Барселоны. Луіс дэ ла Пена Вальега — малады, такі прыгожы (дарэчы, як і большасць іспанцаў) жыхар сталіцы Каталоніі — пераканаў нас у гэтым усяго толькі дзвюма лічбамі: плошча барселонскага порта звыш 300 гектараў, а перапрацоўвае ён штогод сотні тысяч тон грузаў.

Барселонцы, як і ўсе іспанцы ўвогуле, — народ шчыры, адкрыты, чыстасардэчны. Пачаў ты блукаць па сталіцы Каталоніі, згубіў, што называецца, арыенціры, — спыніся і спытай, куды і як прайсці. Спытай калі не па-іспанску, дык па-французску, па-нямецку, па-англійску, і табе абавязкова растлумачаць, нават правядуць і пакажуць... Калі ж у цябе ёсць пытанні іншага кшталту — таксама не саромся...

Луіс Вальега і стаў такім нашым добраахвотным гідам.

Тлумачыць яму, дарэчы, як і большасці іспанцаў, што такое Беларусь — справа безнадзейная. Ну не чуў Луіс пра такую дзяржаву і ўсё тут! Праўда, аказаўся ён вялікім аматарам спорту, прычым — даволі шырокага кругагляду. Пра нашага гімнаста Віталя Шчэрбу ён не толькі чуў, але і бачыў яго ў час трыумфу на Алімпійскіх гульнях тут, у сваім родным горадзе, калі Віталь заваяваў адразу шэсць (!) залатых узнагарод. Ведае Вальега і пра нашага легіянера-гандбаліста Міхаіла Якімовіча, чуў штосьці некалькі гадоў таму пра футбаліста Андрэя Зыгмантовіча... «А так, ну прабачце!» — неяк вінавата ўсміхнуўся малады іспанец.

— Лепей пайшлі па Барселоне, — запрасіў Луіс. — Усё, што ведаю, раскажу і пакажу...

Цяжка нават уявіць, што кожны год тут бывае некалькі дзесяткаў мільёнаў турыстаў. Усяго ж Іспанію наведвае каля 60 мільёнаў падарожнікаў. І ўсім хапае месца, усе накормленыя і забяспечаныя жыллём, усім, што называецца, хапае сувеніраў... І не дзіва, што паступленні ад турызму з'яўляюцца буйнейшай крыніцай замежнай валюты. Магазіны ж Барселоны па наяўнасці тавараў, памерах і афармленню не ўступаюць самым сучасным супермаркетам Лондана і Мілана, Бруселя і Бона (гэта я магу засведчыць як відавочца)...

Сказаць, што сама Барселона вельмі ўжо вялікі горад, — ніяк нельга: тут пражывае 2,2 мільёна чалавек. Па веравызнанню 98 працэнтаў з іх — католікі. Сярэдняя заработная плата каталонцаў — крыху больш як 150 тысяч песет (гэта звыш 1 тысячы долараў ЗША). Аднак хапае і людзей з куды большым кашальком.

Амаль чатыры дзесяцігоддзі франкісцкай улады хаця і закончыліся напрыканцы сямідзесятых, аднак даюць аб сабе знаць яшчэ і сёння. Калі эканамічнае адставанне Іспаніі практычна пераадолена (у гэтым краіне вельмі і вельмі істотную дапамогу аказалі і аказваюць дзяржавы «вялікай сямёркі» свету), то дэмакратычныя пераўтварэнні найперш у сацыяльнай сферы яшчэ адчуваюцца. З аднаго боку, сюды плывуць мільярды долараў замежных інвестыцый і Іспанія на вачах становіцца раўнапраўным партнёрам багатых краін свету, а песета, што называецца, ператвараецца ў салідную, паважаную валюту; з другога — хапае (і гэта няцяжка заўважыць няўзброеным вокам) тут і галечы, і беспрацоўя: толькі паводле афіцыйных звестак сярод іспанцаў да трох мільёнаў чалавек не маюць пастаяннага месца працы. У асноўным гэта маладыя людзі ад 16 да 25 гадоў. Сярод беспрацоўных Барселоны, напрыклад, шмат металістаў і будаўнікоў, тэкстыльшчыкаў і карабелаў, металургаў і абутнікаў... Чаму? Новыя звышсучасныя тэхналогіі «робяць» сваю справу: выцясняюць рабочага чалавека за прахадную...

Церпіць ад беспрацоўя і мясцовая інтэлігенцыя. Дыпламаваныя юрысты, архітэктары, хімікі, біёлагі часта застаюцца без працы. За дзяржаўнымі універсітэтамі, у тым ліку і Барселоны, трывала замацоўваецца назва «фабрык па вытворчасці беспрацоўных». Але ж чаму менавіта за дзяржаўнымі, калі тут намнога больш прыватных вышэйшых навучальных устаноў? А справа ў тым, што, паводле традыцыі, якая ўсталёўвалася ў Іспаніі, больш прэстыжна і ганарова вучыцца ў прыватным універсітэце, чым у дзяржаўным, хаця гэта намнога і даражэй. У адзін з трох універсітэтаў Барселоны паступіць можна без асаблівых праблем, а вось знайсці пасля працу — праблема. Таму і гатовы іспанцы плаціць прыватнай ВНУ да 500 тысяч песет у год, толькі б мець гарантыю пасля атрымання дыплома знайсці працу...



Ёсць сярод беспрацоўных і наш брат — журналіст. Можа той ці іншы з іх папрацаваць на ганарар, але гэта, вядома ж, не тое, што трывалы заробак. Дапамогу ж па беспрацоўю іспанцы атрымліваюць усяго толькі некалькі месяцаў, а потым пачынаецца сапраўднае блуканне па пакутах: адсутнасць грошай, пазыкі... Не кожны, далёка не кожны (уласна кажучы, як і ў нас) знаходзіць выйсце са становішча. Адбываецца ўнутраны надлом, узнікае пачуццё віны перад сям'ёй, адчуванне ўласнай непаўнацэннасці і непатрэбнасці грамадству... Для гордых, незалежных іспанцаў гэта — самае сапраўднае гора, іншы раз — нават трагедыя.

Ёсць, вядомая справа, і такія (і іх, паводле прызнання саміх каталонцаў, даволі шмат), хто грошы не лічыць, маючы іх не адзін мільён. А ў пацвярджэнне гэтага — усяго толькі два прыклады.

У самым цэнтры Барселоны да Алімпійскіх гульняў 1992 года, якія, дарэчы, прайшлі тут на вельмі высокім арганізацыйным узроўні, быў узведзены спецыяльны жылы квартал (так званая Алімпійская вёска), што адпавядаў самаму сучаснаму ўзроўню. Алімпіяда прайшла, паўстала пытанне аб продажы жылля ў квартале. Гарадскія ўлады сталіцы Каталоніі, натуральна ж, разумелі, што казну можна за кошт гэтага папоўніць добрымі грашамі. І не памыліліся. Алімпійскі квартал быў распрададзены даволі хутка па цане... 1000 долараў за адзін квадратны метр. Сёння сюды па-ранейшаму возяць экскурсантаў, дэманструючы ім тым самым дабрабыт і прыстойныя ўмовы жыцця барселонцаў.

А непадалёку ад былой Алімпійскай вёскі яшчэ адзін вядомы аб'ект — гарадскія могілкі. Нягледзячы на тое, што знаходзяцца яны ў даволі запушчаным стане, «вечны спачын» тут таксама могуць атрымаць людзі толькі з даволі важкім кашальком. Пахаванне астанкаў нябожчыка пасля крэмацыі на гэтых могілках каштуе 1 мільён песет (каля 7 тысяч долараў), прычым — на дзесяць гадоў. Пасля заканчэння тэрміну родзічы нябожчыка павінны альбо зноў заплаціць той жа мільён за тыя ж дзесяць гадоў, альбо забраць і перанесці астанкі на іншыя, больш танныя могілкі.

Як кажуць у такіх выпадках, цяжка нам зразумець «гэтых» капіталістаў!

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**
**Мінск — Барселона.**
**(Заканчэнне будзе)**

**Працяг. Пачатак у нумары за 12 лістапада.**

